# ПОЛАЦАК

Выданьне беларускага культурна-
асьветніцкага цэнтру
Кліўленд
ЗША




№4(34), 1994



*19 чэрвеня 1994 г. пісьменьніку Васілю Быкаву споўніцца*

## *70 год!*

***Рэдакцыя часопіса «Полацак» шчыра віншуе юбіляра з днём народзінаў і зычыць яму здароўя, доўгага творчага жыцьця і плённай працы на карысьць Бацькаўшчыны***

# Polatsak



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

# Зьмест



**Міхась Карпук**. Мастацкае афармленьне заставак і шрыфтоў рубрыкаў.
На развароце. **Мікола Рыжы.** Партрэт Радаслава Астроўскага.

# Другі Ўсебеларускі Кангрэс

*27 чэрвеня 1944г. у залі Беларускага гарадзкога тэатру адбыўся Другі Ўсебеларускі Кангрэс, у якім прыняло ўдзел 1039 дэлегатаў ад 27 акругаў Беларусі і ад 7 гарадоў, дзе былі беларускія арганізацыі: Варшавы, Кракава, Лодзі, Кёнігсбергу, Рыгі, Вены і Бэрліну.*

*Да гэтай падзеі ў розныя часы адносіліся па-рознаму. Адны ганілі Кангрэс, другія стараліся замаўчаць факт яго правядзеньня, трэція апраўдывалі дзеячоў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу і сяброў Беларускае Цэнтральнае Рады. Мы ўважаем, што нельга выкрэсьліваць зь беларускае гісторыі падзею, якая адбылася 50 год таму назад у Менску. Дзесяткі тысяч людзей пасьля Кангрэсу пакінулі Бацькаўшчыну, вялікая колькасьць іх былі шчырымі беларускімі патрыётамі, яны ў эміграцыі засьведчылі аб гэтым.*

*Сёньня мы адзначаем 50-годзьдзе Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, каб ушанаваць памяць беларускіх патрыётаў, якія загінулі падчас вайны і пасьля яе. (Асабліва жорсткі лёс выпаў на долю моладзі, якая паверыла лёзунгам, а пазьней прайшла праз усе пакуты сталінскіх ГУЛАГаў).*

*Умовы скліканьня Другога Ўсебеларускага Кангрэсу былі вельмі складаныя. Акупант сачыў за кожным, хто выступаў з прамовай. Паколькі фронт быў недалёка Менску, адно неасьцярожнае слова магло зьнічтожыць чалавека. Гісторыкі павінны ўлічваць гэтыя абставіны, аналізуючы як пэрыяд да скліканьня Кангрэсу, так і пэрыяд пасьля яго. Будучыя дасьледчыкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу мусяць таксама зьвярнуць увагу на тое, што беларуская нацыянальная самасьвядомасьць параўнаўча з самасьвядомасьцю суседніх народаў была недастатковая, каб самастойна весьці нацыянальную палітыку і змаганьне. Мы нават сёньня шукаем добрага «апекуна», спадзяючыся на чужую дапамогу ў вырашэньні нашых праблемаў. Выступленьне на Другім Ўсебеларускім Кангрэсе Аўгена Калубовіча, сьведчыць аб некарысьці «апякунства», аб ягонай шкоднасьці для беларускае культуры і гісторыі. Зразумела, што Аўген Калубовіч у той час ня мог адкрыта выказаць сваю думку аб перажываньнях і зьдзеках беларускага насельніцтва, бо ў лёжы тэатру, дзе праходзіў Кангрэс, сядзелі заваёўнікі нашага краю, якіх трэба было называць вызваліцелямі. Гэтыя й іншыя абставіны трэба ўлічваць, чытаючы выступленьне Аўгена Калубовіча, якое мы друкуем ніжэй.*



*Аўген Калубовіч у часе выступленьня на Другім Усебеларускім Кангрэсе*

«Паважаныя спадары Дэлегаты Кангрэсу!

Наш Беларускі Народ, як і ў пэрыяд Першай Сусьветнай вайны і расейскіх рэвалюцыяў у 1917 годзе, цяпер ізноў перажывае адказны момант у сваім жыцьці, момант, калі на вагі гісторыі ізноў кінуты лёс усіх народаў сьвету, у тым ліку і лёс нашага народу. Якраз цяпер гісторыя паставіла перад намі найпаважнейшыя пытаньні нашага жыцьця, на якія вымагае безадкладнага адказу. Таму цяпер ад нас самых залежыць у вялікшай меры вырашэньне нашага лёсу.

Як і ў 1917 годзе, мы ізноў сабраліся на Усебеларускі Кангрэс. Воляю лёсу, мы ізноў маем магчымасьць, аглянуўшыся на пройдзеную дарогу, разважаць аб нашым сяньня і выбраць найлепшую дарогу ў заўтра. Толькі ўлічыўшы гісторыю мінулага, можна найбольш правільна вырашыць аб будучыні, пазьбягаючы няўдачаў і памылак мінулага. Наш Кангрэс, як і паводля колькасьці прысутных на ім дэлегатаў і паводля тэрытарыяльнага на ім прадстаўніцтва, амаль з усяе этнаграфічнае Беларусі, і паводля прысутных тут прадстаўнікоў ад усіх сацыяльных, прафэсыйных і ўзрастных групаў, аб чым сьцьвердзіла справаздача Мандатнай Камісіі, ёсьць паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніцтвам Беларускага Народу. На ім у вялікшай меры будзе ляжаць адказнасьць за лёс нашай Бацькаўшчыны Беларусі і Беларускага Народу. Гэта змушае нас з поўнай адказнасьцю перад сваёй гісторыяй разважаць і пастанаўляць.

Кажнаму з нас зразумела, што дзеля таго, каб паставіць тут пытаньне, аб аканчальным разрыве з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах, мы абавязаныя перадусім аглянуцца на перажытае нашым народам пад СССР, ацаніць гэты адрэзак часу гісторыі, высьвятліць, што прынесла маскоўска-бальшавіцкая ўлада нашай Бацькаўшчыне і ці ёсьць нам патрэба і надалей жадаць савецкай улады і быць зьвязанымі з Савецкім Саюзам.

Выконваючы наказ Першага Усебеларускага Кангрэсу 1917 г., Рада Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га Сакавіка 1918 году 3-яй Устаўнай Граматай абвесьціла Беларусь Незалежнай Народнай Рэспублікай і стварыла нацыянальны беларускі ўрад. Гэтым гістарычным актам Беларусь была вызвалена ад маскоўскага ярма, парваўшы з ёю ўсялякія дзяржаўныя сувязі. Беларуская Народная Рэспубліка сталася пачаткам вольнай беларускай дзяржавы, да якой, як да свайго найдаражэйшага ідэалу так доўга імкнуліся Беларусы.

Але злы лёс ня судзіў ёй тады шчасьця; недзе на ўсходзе ад яе зьбіраліся чорныя хмары. І калі ў ходзе савецка-нямецкае вайны бальшавіком ізноў удаецца заняць 9-га сьнежня 1918 году Менск, дзяржаўнасьці і незалежнасьці Беларусі быў усаджаны нож. Рада і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, яшчэ не абапёртыя на собскай збройнай сіле, якую ня здолелі як сьлед арганізаваць, змушаны былі ісьці на эміграцыю, каб

хоць стуль працягваць абарону інтэрэсаў свайго народу, дзе яны і дзеялі аж да 1927 году.

Гэта ўжо каторы раз у гісторыі нашага нацыянальнага змаганьня вялікадзяржаўная Масква, пераапранутая на гэты час у чырвоную вопратку бальшавізму, пазбавіла Беларускі Народ права на вольнае жыцьцё. Але гэтым яна не забіла ў нашым народзе сьвятых ідэалаў 25-га Сакавіка, у чым і сама была перакананая. А таму, каб заспакоіць Беларусаў, яна змушанай была абвесьціць 1-га студзеня 1919 году г. зв. Беларускую Савецкую Рэспубліку, ды гвалтоўна далучыць яе да Савецкай Расеі.

Пазьнейшыя падзеі на Беларусі падцьвердзілі бальшавікам незадаваленьне Беларускага Народу накінутай яму новай маскоўскай пятлёй. Гэтак Случчына, зразумеўшы хітры манэўр бальшавіцкай Масквы, узьнялася ў 1920 годзе на паўстаньне. На сваім зьезьдзе 14-га лістапада 1920 г. яна заявіла, што «... вітае Найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і ... катэгарычна пратэстуе супраць заняцьця нашай Бацькаўшчыны чужацкімі і самазванымі савецкімі ўладамі...» І калі ўсё-ж, ня зважаючы на гэта, бальшавіцкія акупанты ў канцы лістапада 1920 году пачалі пасоўвацца на Случчыну, адважныя Случчакі, верныя сваёй пастанове, хапіліся за зброю. У валасьцёх і вёсках паўсталі Беларускія Нацыянальныя Камітэты, якія арганізоўвалі самаабарону. Хутка з паўстанцаў зарганізавалася цэлая дывізія, якая 27-га лістапада 1929 году пайшла ў крывавы бой за Вольную Беларусь, супраць маскоўска-бальшавіцкай няволі. Але Случчакі, не падтрыманыя зброяй усяго Беларускага Народу, не змаглі абараніць Беларусь ад бальшавікоў і ў ходзе баёў змушаны былі пераступіць польскую мяжу, дзе былі Палякамі інтэрнаваныя. Частка-ж іх не злажыла зброі, пайшла ў лясы і аж да 1929 году змагалася з бальшавікамі.

Такім чынам, Савецкая Беларусь паўстала ў выніку маскоўскае акупацыі нашага краю і гвалтоўнага далучэньня яе да Савецкага Саюзу. Як тая парабчанка бальшавіцкае Масквы, яна была ўтвораная на касьцёх і крыві зруйнаванае бальшавікамі Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Бальшавіцкая Масква, якая заміж зьліквідаванай ёю ў 1919 г. Беларускай дзяржаўнасьці і незалежнасьці, падсунула Беларусам свой новы твор — БССР., думала, што Беларусы будуць уважаць яго за сваю запраўдную дзяржаўнасьць і гэтым задаволяцца. Але наш народ жывучы ў БССР цэлы час адчуваў, што Беларусь у складзе Савецкага Саюзу ёсьць толькі замаскаваная фікцыя бутафорнай дзяржаўнасьці і пры тым далёка не беларускай, а маскоўскай.

А што яна ёсьць фікцыя, гэта ня цяжка давесьці, бо нават сама ейная дзяржаўная структура, мэтады і спосабы адміністрацыйнага кіраваньня ды варожая Беларусі і Беларускаму Народу палітыка, выразна аб гэтым сьведчаць.

Праўда, гэтая структура і мэтады кіраваньня ня былі праз цэлы час аднолькавыя, яны ў залежнасьці ад палітыкі і мамэнту мяняліся, але сутнасьці сваёй ніколі ня гублялі. Таму я дазваляю сабе гаварыць аб ёй, паводля апошняе канстытуцыі СССР і БССР, тым больш, што Масква распрапагандавала яе ў цэлым сьвеце, як найбольш дэмакратычную.

Паводля канстытуцыі СССР і БССР з 1936 году Беларусь іменавалася Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, якая быццам дабраахвотна аб'ядналася з іншымі раўнапраўнымі Савецкімі Сацыялістычнымі Рэспублікамі ў Савецкі Саюз (арт. 13). Паводля тае-ж канстытуцыі, яна быццам ажыцяўляла дзяржаўную ўладу самастойна, захоўваючы свае поўныя сувэрэнныя правы (арт. 13), аж да права свабоднага выхаду з СССР (арт. 15).

А як-жа было ў запраўднасьці?

Для таго, каб адказаць на гэта і зразумець усю тую супярэчнасьць між дэ юрэ і дэ факто дзяржаўнай практыкі БССР, трэба разабрацца ў тым, што такое СССР з нацыянальнага гледзішча. А з нацыянальнага гледзішча СССР гэта хітра замаскаваная, збальшавізаваная і ажыдоўленая былая Расейская імпэрыя, якая для таго, каб існаваць і не разваліцца, павінна быць моцна сцэнтралізаванай краінай з аўтарытарнай формай кіраваньня. Бальшавікі зразумелі, што толькі крайняя дзяржаўная цэнтралізацыя ў палучэньні з прынцыпамі аўтарытарства, магла затрымаць распад шматнацыянальнай краіны, у якой усе народы, апрача расейскага, аж ад самага пачатку заваяваньня іх расейцамі, перажывалі ня толькі сацыяльны, але і нацыянальны прыгнёт. Выходзячы з гэтага, найвышэйшыя кіраўнікі СССР змушаныя былі ў сукрытай і перафарбаванай пад чырвоны колер-фон, гэтыя аснаўныя прынцыпы і традыцыі дзяржаўнага кіраваньня былой расейскай імпэрыі ўдзержыць. А дзеля гэтага, усялякія іх размовы аб спадумнай раўнапраўнасьці, поўнай сувэрэннасьці і самастойнай дзяржаўнай уладзе ў Беларусі, як і ў іншых савецкіх рэспубліках, зьяўляюцца скрозь фальшывымі.

Нават не ўдаючыся ў падрабязны агляд гэтай справы, можна заўважыць, што ўжо савецкая канстытуцыя цьвердзіць пра адваротнае.

Якая-ж можа быць самастойная дзяржаўная палітыка БССР і, на што маглі апіраць яе, быццам сувэрэнныя правы, калі:

1. Усе прынцыповыя кіраўнічыя пастановы былі ў руках Масквы; калі, законадаўчую волю і дзейнасьць Вярхоўнага Савету БССР і яе прэзыдыюму накіроўвае Вярхоўны Савет СССР і ягоны прэзыдыюм: калі, распарадчую і выканаўчую дзейнасьць «беларускага ўраду» накіроўвае агульна саюзны, маскоўскі ўрад. З гэтага пагляду нават некаторыя артыкулы канстытуцыі БССР самі за сябе сьведчаць. Так, арт. 17 цьвердзіць: «Законы СССР абавязваюць на тэрыторыі БССР»; арт. 14 — «Савет Народных Камісараў БССР выдае пастановы і распараджаньні на аснове і ў выкананьні дзеючых законаў СССР; арт. 90 — «Пракурор БССР і абласныя

пракуроры прызначаюцца пракурорам СССР» і г. д.

2. У БССР ня было так важных, з дзяржаўнага пункту гледжаньня, наркаматаў, як : абароны, замежных справаў, замежнага гандлю, шляхоў зносін, сувязі (пошта, тэлеграф, радыё), авіяцыйнай прамысловасьці, боепрыпасаў, узбраеньня і г. д.

3. У БССР такія важныя наркаматы, як: зямляробства, фінансаў, гандлю, нутраных справаў, дзяржаўнай бясьпекі, юстыцыі, лёгкай прамысловасьці і інш. былі наркаматамі саюзна-рэспубліканскімі, г. зн., што іхная дзейнасьць была не самастойная, а выключна выканаўчая. У іхныя функцыі ўваходзіла толькі акуратна выконваць загады Масквы — Рады Народных Камісараў СССР і адпаведных Народных Камісараў СССР. Толькі Наркаматы асьветы, мясцовай прамысловасьці, камунальнай гаспадаркі, сацыяльнага забясьпечаньня, аўтамабільнага транспарту і кіраўніцтва ў справах мастацтваў, уважалася, паводля канстытуцыі БССР, быццам, зусім самастойнымі і незалежнымі ад Масквы, што на самай справе было далёка ня так.

Не зважаючы на тое, што арт. 43 канстытуцыі БССР сьцьвярджае права і абавязак ураду БССР складаць народна-гаспадарчы плян і дзяржаўны бюджэт на Беларусь, на самай справе, яны спачатку выпрацоўваліся ў Маскве, у Радзе Народных Камісараў СССР, Дзяржплянам і Наркомфінам СССР, затым прыймаліся сэсіяй Вярхоўнай Рады СССР, а ўжо пасьля гэтага Вярхоўныя Рады саюзных рэспублікаў, і іхныя ўрады раскладалі вызначаныя для іх у Маскве бюджэты і пляны народна-гаспадарчай дзейнасьці ў сваіх акругах і раёнах. Аб несамастойнасьці фінансавай палітыкі БССР і ягонага Наркомфіну сьведчыць хоць-бы ўжо той, сьмеху варты факт, што ўрад БССР ня меў нават права павысіць заработную плату якой небудзь групе работнікаў ці інтэлігенцыі.

Такія выснавы, што да самастойнасьці, незалежнасьці і сувэрэннасьці БССР можна было-б зрабіць і з самай савецкай канстытуцыі. Але бальшавікі, у дадатак да ўсяго гэтага выявілі-б сябе, як катэгорыю людзей, для якіх наагул законы ня пісаныя. І таму яны з ёй наагул ня лічыліся і, калі ім гэта было патрэбна, парушалі.

Гісторыя маскоўскага кіраваньня на Беларусі ведае шмат выпадкаў бязцырымоннага парушэньня канстытуцыі. Так, арт. 122 канстытуцыі БССР ці і арт. 146 канстытуцыі СССР гаворыць: «Зьмена канстытуцыі БССР ці СССР робіцца толькі на аснове пастановы Вярхоўнага Савету БССР і СССР, прынятае большасьцю ня менш 2/3 галасоў Вярхоўнага Савету». З гэтага здавалася-б вынікала, што ня толькі Саветы Народных Камісараў, але нават і прэзыдыюм Вярхоўнага Савету ня маюць юрыдычных правоў выдаваць «указы» і пастановы, якія супярэчаць артыкулам канстытуцыі. Аднак, у 1940 годзе зусім нечакана для савецкай, ужо звыклай да бальшавіцкіх мэтадаў кіраваньня, грамадзкасьці, Рада Народных Камісараў

СССР выдае пастанову аб платнасьці навучаньня ў сярэдніх і вышэйшых школах, адмене дзяржаўнай стыпэндыі, дарма, што ў арт. 96 канстытуцыі СССР зусім ясна напісана: «грамадзяне БССР (ці СССР) маюць права на асьвету». «Гэтае права забясьпечваецца... бясплатнасьцю навучаньня, уключаючы і вышэйшую асьвету, сыстэмаю дзяржаўных стыпэндыяў, пераважнай большасьці навучаючыхся ў вышэйшай школе...»

Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць, што Масква, наагул, справу дзяржаўнага кіраваньня вяла зусім інакш, чым гэта паказана ў канстытуцыі, установамі, органамі і мэтадамі. Можна з пэўнасьцю сьцьвердзіць, што ўся гэтая вялізная дзяржаўная машына, ад самага верху і да нізу, была пазбаўлена самастойных функцыяў і самадзельнасьці; у дзяржаўна-палітычнай дзейнасьці яна толькі пасыўна адкрывала ўсе загады бальшавіцкіх партыйных органаў; на самай справе ёй былі нададзеныя толькі функцыі выкананьня бальшавіцкай партыйнай палітыкі ў усіх бяз вынятку пытаньнях і галінах дзяржаўнай дзейнасьці.

Праз якія-ж органы бальшавіцкая партыя ажыцяўляла дзяржаўнае кіраўніцтва ў Беларусі і якімі мэтадамі?

Усе прынцыповыя і найбольш важныя пытаньні вырашаліся ў Палітбюро ЦК ВКП(б). Як гэта ня дзіўна, але нават партыйны зьезд ня мог зьмяніць палітыкі Палітбюро, якое ў сваёй дзейнасьці цьвёрда апіралася на зброю войска ГПУ-НКВД і міліцыю. Палітбюро ЦК ВКП(б), у склад якога апрача чыста партыйных чыноўнікаў, уваходзілі і кіраўнікі вярхоўных органаў савецкага дзяржаўнага апарату, накіроўвала дзейнасьць і ЦК ВКП(б) і ўсіх саюзных, у тым ліку і Беларускай Рэспублікі і вярхоўныя органы законадаўчай і выканаўчай улады СССР. ЦК ВКП(б) Беларусі, атрымаўшы партыйныя загады ад Палітбюро ЦК ВКП(б), ужо далей накіроўвала дзейнасьць абласных партыйных камітэтаў БССР і вышэйшых, г. зв. заканадаўчых і выканаўчых органаў дзяржаўнага ўраду БССР. Ажыцьцяўляць гэта ім было ня цяжка, бо ў склад ЦК КП(б) Беларусі ўваходзілі і сакратары абласных камітэтаў партыі і старшыня Вярхоўнага Савету БССР і старшыня ягонага прэзыдыюму і старшыня Савету Народных Камісараў, ды пераважная большасьць народных камісараў і старшыняў прэзыдыюмаў абласных выканаўчых камітэтаў. Урэшце, на чале кажнай установы і прадпрыемства стаяў абавязкава сябра партыі, які на сваім становішчы выконваў партыйныя загады, ажыцяўляючы партыйную палітыку. Вось чаму з мэтаю забясьпячэньня маскоўска-бальшавіцкага панаваньня ў БССР усе ўстановы і прадпрыемствы Беларусі, ад вышэйшых дзяржаўных органаў, аж да сяла і паасобныя ўстановы (дзяржаўныя, прафэсійныя, навуковыя, гаспадарчыя, судовыя і г. д.) і прадпрыемствы былі абсаджаныя сябрамі бальшавіцкай партыі.

Усе, бяз вынятку, прынцыповыя кіраўнічыя пытаньні і пытаньні кіраўнічых кадраў, кіраўнікамі ўстановаў абавязкава ўзгадняліся ў адпаведным

партыйным камітэце. З гэтай мэтаю ў ЦК КП(б) Беларусі было нават некалькі сакратароў і загадчыкаў аддзелаў, якія кіравалі асобнымі галінамі дзяржаўнай дзейнасьці. Бальшавікі нат не сароміліся ўсе вышэйшыя пастановы дзяржаўнага кіраўніцтва друкаваць за двума падпісамі: сакратар АК КП(б) Беларусі і старшыня СНК, сакратар АК КП(б)Б і старшыня прэзыдыюму абласнога выканаўчага камітэту і г. д. Пастановы-ж палітбюро ЦК ВКП(б), ЦК КП(б)Б, партыйных зьездаў і іншых партыйных органаў заўсёды ўважаліся за праграмныя і абавязваючыя дзяржаўна-адміністрацыйныя органы і ўстановы.

Для ажыцьцяўленьня сваёй кіраўніча-партыйнай волі і лініі ў ваўсіх галінах дзяржаўнай дзейнасьці (палітычнай, гаспадарчай, прафэсійнай, асьветнай і г. д.) партыйныя органы апіраліся на створаны імі вельмі шырака апарат ГПУ-НКВД і спэцаддзелы пры ўстановах. НКВД СССР праз свае рэспубліканскія, абласныя і падобныя аддзелы праводзілі кантроль за дзейнасьцю ўсіх дзяржаўных органаў, установаў і прадпрыемстваў і іхнымі працаўнікамі. Перад органамі НКВД дрыжэлі і старшыня Вярхоўнага Савету БССР і старшыня г. зв. беларускага ўраду і народныя камісары, ня кажучы ўжо пра кіраўнікоў трэстаў і больш дробных установаў.Праз органы НКВД, бальшавікі сыстэмаю арыштаў, маглі замяніць і замянялі няпрыдатных для іх кіраўнікоў і супрацоўнікаў дзяржаўных органаў. Такім чынам, сама дзяржаўная структура БССР, а тым больш фактычны стан рэчаў у дзржаўным кіраваньні ёю, сьведчыць аб адсутнасьці, якой колечы незалежнасьці і сувэрэннасьці БССР.

Аб гэтым-жа сьведчыць і палітыка бальшавіцкай Масквы ў адносінах да Беларусі. Гэтая палітыка ніколі ня была накіраваная на дабро Беларускага Народу, бо на Беларусь Масква глядзела толькі, як на аб'ект эксплёатацыі, як на ўнутраную калёнію.

Тут наперад я мушу напомніць дэлегатам аб тым, як Масква, далучыўшы да сябе Беларусь, ніяк не магла адразу вызначыць ейныя межы і аж некалькі разоў сваім крывавым бальшавіцкім нажом рэзала, кроіла і перакройвала ейнае жывое цела. Гэтак 1-га студзеня 1919 году, калі была абвешчана Савецкая Беларусь — яна мела абыймаць амаль усе этнаграфічныя беларускія землі. Праз два месяцы, калі Масква паспрабавала прасоўвацца далей на захад, яна, відаць, прызнала нявыгадным мець такі вялікі, хоць і савецкі, але няпэўны беларускі твор, і 27-га лютага 1919 году, скасаваўшы сваю ранейшую пастанову, стварыла меншую Беларуска-Літоўскую Савецкую Рэспубліку (ЛітБел) у межах былых Менскай, Віцебскай, Горадзенскай і Ковенскай губэрняў. Пазьней-жа, у часе савецка-польскай вайны, калі ёй удалося ачысьціць ад палякаў Менск і пасоўваючыся на Вільню і Варшаву, яна сустрэла з боку летувісаў супраціў, дык 20-га ліпеня 1920 году яна падпісала з імі ўмову, паводля якой вялікая частка беларускіх земляў — Ашмяншчына, часткі Наваградчыны, Лідчыны,





У час правядзеньня Другога Усебеларускага Кангрэсу

Маладэччыны і горад Вільню прызнала Летуве. 1-га жніўня 1920 году Масква ізноў абвесьціла, што творыць самастойную Беларускую Савецкую Рэспубліку, але ўжо ў межах толькі шасьцёх паветаў былое Менскае губэрні з насельніцтвам у 1.200.000 чалавек. Годзячыся ў 1921 годзе з палякамі, яны не дапусьцілі на мірную канфэрэнцыю ў Рыгу прадстаўнікоў БССР і бяз згоды Беларусаў падзялілі 18-га сакавіка 1921 году Беларусь. Пры гэтым тэрыторыя ў 100.000 кв. км. з жыхарствам у 4 мільёны людзей была аддадзеная на ласку Польшчы. Частка-ж беларускіх этнаграфічных земляў з беларускім жыхарствам лучыла ў межы Летувіскае рэспублікі. У 1924 годзе, з увагі на рост незадавальненьня ў беларускім народзе маскоўска-бальшавіцкай палітыкай на Беларусі і на дамаганьні Віцебскага і Гомельскага зьездаў саветаў, бальшавікі «далучылі» да БССР часткі Віцебскае, Магілёўскае і Смаленскае губэрняў. У 1926 годзе яна ізноў «далучае» да БССР Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Аднак, па-за межамі БССР засталіся яшчэ большая частка Смаленшчыны, Навазыбкаў, Старадуб, Мглін, паўночная частка Віцебшчыны і іншыя часткі ўсходняе Беларусі. Ужо з гэтага відаць, як Масква зусім не даражыла інтэрэсамі Беларусі і, у залежнасьці ад свае выгады і палітычнай кан'юнктуры, ня лічучыся нават з голасам самых Беларусаў, без канца зьмяняла межы БССР. Калі-б БССР была ня фікцыяй беларускай дзяржавы, дык ці-ж магла-б Масква так безцырымонна, распараджацца ейнай тэрыторыяй? Дзе, у цэлай гісторыі, хоць-бы аднае дзяржавы сьвету, можна знайсьці падобны прыклад?

Што-ж абяцала Беларусам Масква ў першыя годы пасьля далучэньня Беларусі да Савецкага Саюзу?

Паводля сваіх першапачатковых лёзунгаў і дэклярацыяў, Беларусі і Беларускаму Народу абяцаліся ўсе магчымасьці эканамічнага і культурнага разьвіцьця. Яна абяцала сялянам — зямлю, работнікам — фабрыкі, усім грамадзянам — свабоду пераконаньня, слова, друку, веравызнаньня, недатыкальнасьці асобы, дармовую навуку ў школах і г. д. Гэтымі ружовымі абяцанкамі, падцьверджанымі нават канстытуцыяй, яна ашукала наш народ. На супрацоўніцтва з бальшавікамі мусіла пайсьці і нашая інтэлігенцыя, якой не заставалася нічога лепшага рабіць, як скарыцца перад новымі ўмовамі ды выкарыстоўваючы легальныя магчымасьці, хоць штоколечы рабіць у кірунку гаспадарчай адбудовы свайго краю і разьвіцьця нацыянальнай, беларускай культуры, мастацтва і навукі. Тым больш, што першыя годы свайго панаваньня ў Беларусі, бальшавікі абяцалі неабмежаныя на тое магчымасьці. Шмат чаго імі было зроблена асабліва ў пэрыяд гэтак званага НЭПу.

Але ці была ў гэтым якая заслуга бальшавікоў?

Не. Эканамічны і культурны ўздым Беларусі ў пэрыяд НЭПу забавязаны быў: па-першае — пасьляваеннаму пэрыяду, калі любая ўлада мусіць у працягу колькіх гадоў аднаўляць разбураную вайной гаспадарку і ста-

білізаваць дзяржаўнае жыцьцё; па-другое — самаахвярнай працай для свайго народу і краю, тых Беларускіх патрыётаў, якія на адміністрацыйных ці культурна-навуковых становішчах стараліся ў гэтым кірунку, НЭП-жа ня быў мэтаю бальшавікоў, а толькі часовым, фактычным манэўрам, і ўступкаю народу, разьлічанай, як цьвердзілі самі бальшавікі на тое, каб выйграць час, поўнасьцю ўмацаваць сваю ўладу, а ўжо потым прыступіць да арганізаваньня сваёй партыйнай улады.

Гэтак і было. Пасьля кароткага пэрыяду НЭПу, асабліва ад 1928-29 году Масква стромка паварочвае сваю нацыянальную палітыку ў бок выразнага руйнаваньня нашай Бацькаўшчыны ды спыненьня ўсялякае нацыянальна-культурнае працы.

Наўперад яна пачала здымаць з адказных адміністрацыйных становішчаў нацыянальных беларускіх дзеячоў і замяняць іх жыдамі ды сваімі пасланцамі. Гэтак, на ейны загад быў зьняты са становішча старшыні ўраду БССР выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч Язэп Адамовіч, які праз увесь час НЭПу часта супрацьстаўіўся Маскве і ейнай варожай палітыцы ў дачыненьні да Беларусі і Беларускага Народу. За тым-жа ў 1929 годзе са становішча камісара асьветы БССР быў звольнены А. Баліцкі, са становішча камісара земляробства — З. Прышчэпаў, са становішча сакратара Беларускай Акадэміі Навук — ведамы беларускі дзеяч, акадэмік В. Ластоўскі, за ім заснавальнік Інстытуту Беларускай Культуры і віцэ-прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук прафэсар С. Некрашэвіч і г. д.

Амаль адначасна на загад той-жа Масквы, у 1929 годзе ў БССР пачалася акцыя калектывізацыі. Ужо адбудаваная за час НЭПу прыватныя сялянскія гаспадаркі яна пачала прымусова ліквідаваць, а сялян гвалтам заганяць у калгасы, пры тым у сялянаў адбіралася іхная зямля, жывёла і маёмасьць; для іх варочалася ізноў чорная пара старога прыгону ды яшчэ ў больш цяжкой форме. Сярод беларускага сялянства, гэтая варожая і неадпаведная ягонаму нутру рэформа, выклікала моцны адпор, на што Масква адказала тэрорам. Звыш 1.500.000 беларускіх сялянаў, цэлымі сем'ямі са старымі жанчынамі і дзяцьмі, былі арыштаваныя, адарваныя ад родных хатаў і вывезеныя на галодную сьмерць у тайгу і тундру халоднага Сібіру, ды гарачыя пустыні Казахстану. На ўсход і поўнач Савецкай Расеі ішлі з Беларусі даўжэзныя цягнікі таварных вагонаў поўныя беларускіх сялянаў, якія з плачам разьвітваліся з родным краем і сваімі гаспадаркамі. Настала страшэннае разбурэньне і голад. На дзяржаўнае рабаваньне сваёй маёмасьці сяляне адказалі нішчэньнем сваіх гаспадарак. Яны палілі збожжа, рэзалі жывёлу, а часта бралі ў рукі зброю. Над краем навісла пагроза паўстаньня. Бальшавікі на гэтую пагрозу яшчэ больш узмоцнілі тэрор. Увесну і ўлетку 1930 году пачаліся вялікія арышты і сярод беларускай інтэлігенцыі. Сярод арыштаваных знайшліся: былы старшыня Беларускай Народнай Рэспублікі А. Цьвікевіч, які на прапанову самых-жа

бальшавікоў вярнуўся з эміграцыі ў Беларусь, рэктар Менскага Беларускага Унівэрсытэту У. Пічэта, былы камісар земляробства З. Прышчэпаў, шмат беларускіх вучоных, паэтаў, пісьменьнікаў і г. д. Прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук прафэсар У. Ігнатоўскі, каб ня быць арыштаваным пакончыў жыцьцё самагубствам. Гэтак-жа хацеў пакончыць жыцьцё наш вялікі паэта Янка Купала. І дарма што ніякіх дакумантаў і довадаў для абвінавачаньня арыштаваных ня было, бальшавікі ўсё-ж засудзілі іх на савецкую катаргу і выгнаньне на чужыну, дзе бадай ўжо ўсе яны і выгінулі. На гэтым арышты нацыянальных беларускіх дзеячоў і інтэлігенцыі ня спыніліся. У 1933 годзе яны арыштоўваюць усіх былых беларускіх паслоў у польскі сойм з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і Змаганьня, якія бальшавікамі былі хітра зманеныя на працу ў Беларусь. На чале з Рак-Міхайлоўскім, Мятлою, Гаўрылікам, Дварчаніным, Валынцом, Валошыным, Кахановічам ды іншымі выдатнымі беларускімі дзеячамі Заходняе Беларусі было арыштавана 96 асобаў. Такія арышты сярод Беларускага Народу адбываліся нясупынна аж да самага пачатку гэтай вайны. Яны пазбавілі Беларускі Народ дзесяткаў тысяч перадавых людзей.

Гэтак Масква мэтадам прыкладу і бізуна разбурыла да рэшты сялянскую гаспадарку Беларусі і на касьцёх 1.500.000 загубленых ёю Беларускіх сялянаў збудавала тысячы прыгонных гаспадарак г. зв. калгасаў. Беларускага-ж селяніна, якому яны абяцалі зямлю і волю, ператварылі ў поўнага свайго нявольніка.

Ня лепш выглядала справа з гарадзкой гаспадаркай ды са становішчам беларускага работніцтва. У выніку разбурэньня сельскай гаспадаркі — асновы жыцьця і дабрабыту ў нашым сялянскім краю — ды поўнага хаосу і бязгаспадарнасьці ў прамысловасьці і гндлю, у краі настаў поўны таварны голад, нават на рэчы першай неабходнасьці. У такіх умовах становішча беларускага работніка, пры вельмі нізкай заработнай плаце, было ня лепшым, чым становішча селяніна. Да гэтага даходзілі яшчэ бязконцыя грашовыя пазыкі, якія кажны пад прымусам мусіў даваць дзяржаве. Дзеля-ж выкананьня фантастычных пяцігадовых плянаў падрыхтоўкі да сучаснай вайны і міжнароднай камуністычнай рэвалюцыі, бальшавікамі быў уведзены г. зв. стаханаўскі мэтад працы, паводля якога з работніка выціскалі апошнія сілы і пот. Аб дэкляраваным у рэвалюцыі 1917 г. 8-мі гадзінным і менш працоўным дні Масква хутка забылася і яшчэ мірнымі часамі павялічыла яго да 10 гадзінаў. Дысцыпліна працы ў прадпрыемствах і ўстановах была ўстаноўлена вельмі суровая: за спазьненьне на працу работнікі ішлі пад суд і адбывалі кару ў вастрозе. Зьмена месца працы на асабістае жаданьне была забароненая і жорстка каралася законам. Такім чынам і беларускі работнік, прыкуты ланцугамі да варштату, ператварыўся ў нявольніка. Яму знаныя былі толькі голад, нястачы і турботы.

Якая-ж пасьля гэтага БССР беларуская дзяржава? Ці-ж самыя Бела-

русы ў сваёй сувэрэннай дзяржаве так нішчылі-б сваю гаспадарку і народ?

Вялікую шкоду зрабіла Масква і ў галіне нацыянальнай беларускай культуры і мастацтва. Тут ейная палітыка разьлічаная на разбурэньне нашай культуры і канчальнае зрусыфікаваньне Беларускага Народу, апіралася на загад самога Сталіна, які на XVI зьезьдзе бальшавіцкай партыі ў 1930 годзе сказаў гэтак: «Трэба даць нацыянальным культурам разгарнуцца... каб стварыць умовы для зьліцьця іх у вадну агульную культуру з аднэй агульнай мовай». (И. Сталин «Марксизм и национально колониальный вопрос», Партиздат ЦК ВКП(б), 1937 г. стр. 195). Толькі гэтым і можна вытлумачыць, што, асабліва з 1929-30 г. бальшавікі пачалі найбольш інтэнсыўна разгортвацца на нацыянальную беларускую культуру і мастацтва. Гэтак, у 1933 годзе спэцыяльнаю пастановаю ўраду БССР быў зрэфармаваны беларускі правапіс. Мэта гэтае рэформы — схіліць разьвіцьцё нашай мовы ў бок набліжэньня яе да мовы расейскае.

Яшчэ больш барбарскімі мэтадамі на загад Масквы нішчылася наша беларуская літаратура і мастацтва. Разагнаўшы літаратурныя згуртаваньні «Маладняк», «Узвышша» і «Полымя» бальшавікі пачалі арышты лепшых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Гэтак імі былі арыштаваныя, часткава расстраляныя ці замучаныя ў турмах, а рэшта вывезеныя з Беларусі на выгнаньне ў далёкі Сібір каля 90 нашых паэтаў і пісьменьнікаў. Сярод іх былі такія выдатныя прадстаўнікі нашай літаратуры, як У. Дубоўка, Я. Пушча, М. Зарэцкі, Ц. Гартны, А. Дудар, У. Жылка, М. Гарэцкі, Б. Кляшторны, М. Чарот і інш.

Амаль адначасна з арыштамі паэтаў і пісьменьнікаў, былі спыненыя да далейшага выданьня літаратурна-мастацкія часопісы «Маладняк», «Узвышша» і інш., а кнігі арыштаваных, нават некаторых з тых, што чакалі толькі на сваю чаргу, былі забароненыя да чытаньня і масава нішчыліся. На загад Галоўліту яны выбіраліся з бібліятэкаў і спальваліся. У нашыя рукі трапіў г. зв. «Зводны кантрольны сьпіс выданьняў ДВБ, якія сьпісаны ў макулятуру». Сьпіс гэты ўложаны сэктарам кнігагандлю дзяржаўнага выдавецтва Беларусі і выдадзены ў 1935 годзе друкарскім спосабам. Паводля спэцыяльнага зазначэньня на вокладцы ейнага абмяжаванага тыражу (толькі 500 экз.) і загаду дырэктара кнігасэктару Шакінко, яна зьяўлялася сакрэтным дакумантам, які бальшавікі пры сваіх пасьпешных уцёках з Менску не пасьпелі зьнішчыць. У ёй на 125 старонках друкаванага тэксту пералічана 1.778 назоваў кнігаў і часопісаў, агульным тыражом кругла 12.000.000 экз., якія падлягалі неадкладнаму зьнішчэньню. У нашыя рукі трапіла і яшчэ пяць гэткіх сьпіскаў, датаваных ужо 1936 годам. Сярод іх ёсьць «Сьпіс ізьятых сьпіскаў па ізьяцьцю літаратуры для звароту Галоўліту». У ім пералічана аж 26 друкаваных кніг са сьпіскамі зьнішчанае бальшавікамі пераважна беларускай мастацкае і навуковае літаратуры. Па гэтым бальшавікі загадалі рэшце беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў,

прадаючы за нізкі ганарар і танную славу сваё сумленьне, душу і талент, услаўляць бальшавіцкі рай і ягоных багоў. Гэтак разгортваліся бальшавікі і ў галіне беларускага мялярства. Арыштаваўшы наўперад беларускіх мастакоў Э. Гадлеўскага, Ю. Чарняўскага, П. Даркевіча, Г. Змудзінскага і іншых, украўшы найдаражэйшы скарб нашага беларускага мастацтва і рэлігіі — крыж сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, выкінуўшы ў падвал Менскага Гістарычнага Музэю бюст клясыка беларускай паэзіі М. Багдановіча і г. д. — яны загадалі беларускім маляром і скульптарам — маляваць і ляпіць партрэты і бюсты бальшавіцкіх правадыроў, ды выяўляць у сваіх новых творах «шчасьлівае і заможнае калгаснае жыцьцё», ды цёплыя прамяньні сонца сталінскай канстытуцыі.

На гэтую-ж сьцежку яны штурхалі і нашу беларускую музыку і тэатр. Замучыўшы да сьмерці ў скляпеньнях ГПУ-НКВД найвыдатнейшага беларускага кампазытара, аўтара нашага нацыянальнага беларускага гімну У. Тэраўскага, арыштаваўшы заслужаных актораў беларускіх тэатраў У. Галубка, Згіроўскага, Жыдовіча і інш., забараніўшы найлепшы беларускі музычны рэпэртуар «На купальле», «Кастусь Каліноўскі» яны наваднілі саюз беларускіх кампазытараў і нашыя тэатры бяздарнымі жыдамі плягіятарамі ды пачалі прапагандаваць расейшчыну і бальшавізм.

З мэтаю дэнацыяналізацыі нашага народу, бальшавікі забаранілі яму абыходзіць свае самабытныя абрады і звычаі, сьпяваць свае прыгожыя народныя песьні, насіць сваю беларускую нацыянальную вопратку, ды сьвяткаваць народныя сьвяты — Каляды, Вялікдзень, Купальле і іншыя.

Такую-ж шкоду рабілі бальшавікі і справе разьвіцьця беларускай навукі і асьветы. Яны разагналі добра разбудаваную за часоў НЭПу краязнаўчую арганізацыю пры Беларускай Акадэміі Навук, забаранілі да выданьня ейны часопіс «Наш Край», арыштавалі амаль усіх выдатнейшых беларускіх вучоных, прафэсараў і акадэмікаў: Эпімах-Шыпілу, Доўнар-Запольскага, А. Смоліча, Г. Гарэцкага, Круталевіча, Дыдэрку, І. Замоціна, Пятуховіча і іншых, агулам больш 50 асобаў, арыштавалі дзесяткі тысячаў найбольш сьведамых і мысьлячых беларускіх настаўнікаў, аграномаў, інжынераў, лекараў, юрыстых і студэнтаў, зьнішчыўшы іх у скляпеньнях ГПУ-НКВД і выслаўшы на верную сьмерць з Беларусі на поўнач Расеі. Замест іх Беларускую Акадэмію Навук і вышэйшыя школы напаўнялі жыдамі і камуністамі, пераважна бяз ніякіх навуковых ведаў і ступеняў.

Нават самы шыльд «Беларуская Акадэмія Навук» быў адгэтуль заменены на «Акадэмія Навук БССР», падобна, як і «Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва» на — «Дзяржаўнае Выдавецтва пры СНК БССР». У школах дзе выкладаньне было пераведзенае на расейскую мову, калі ня лічыць беларускай мовы і літаратуры, былі забароненыя да вывучэньня гісторыя і геаграфія Беларусі, скарочаныя праграмы беларускай мовы, затое, усьцяж пашыралася праграма расейскай мовы і літаратуры.

Дэкляруючы ў сваіх канстытуцыях свабоду сумленьня і рэлігіі (§ 124 канстытуцыі СССР і § 99 канстытуцыі БССР) бальшавікі ў працягу колькіх гадоў пасьля НЭПу гвалтоўна зачынілі амаль усе 1.600 царкоўных прыходаў, арыштаваўшы, замарыўшы голадам, турмою ды выгнаньнем 8 япіскапаў і каля 1400 сьвятароў.

А колькі імі было разбурана ды апаганена сьвятыняў! Колькі было зьнішчаных дарагіх для нас помнікаў беларускае гісторыі і мастацтва?

Ці-ж гэта не на загад бальшавікоў камсамольцам Хайкіным быў узарваны ў 1937 годзе пад Талачыном найдаражэйшы для беларускай гісторыі помнік XII ст. «Барысаў камень»? Гэта не яны разбурылі ў 1930 годзе крушні Барысаглебскага манастыра ў Полацку з фрэскамі 1222 году, а на гэтым сьвятым месцы збудавалі стайні? Гэта не яны сьцягнулі Сокараўскі крыж 1569 году, пад якім вечным сном адпачывалі 200 харобрых беларускіх вояў, што аддалі сваё жыцьцё за славу і незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны, скарыстаўшы яго для бруку? Гэта не на іх подлы загад віцебскі жыд Эстрын узарваў у 1936 годзе старую царкву сьв. Юры і Уваскрасенска-Рынкавую царкву! Хто-ж, як не яны прадалі ЗША сьвяты для беларусоў абраз Смаленскае Божае Маці Адыгітры? А хто разбурыў сабор сьвятога Язэпа ў Магілёве, каб потым пабудаваць на тым месцы будынак НКВД.

Гэтак бальшавіцкая Масква разгортвалася ў нашай беларускай культуры і мастацтве, шукаючы тыя ўмовы, якія дапамаглі-б ім зьліць яе ў тую адну «агульную культуру» з аднэй «агульнай мовай», да якой клікаў Сталін. «В этом именно и состоит диалектичность ленинской постановки вопроса о национальной культуре» (Сталін, там-жа).

Ці-ж не ясна пасьля ўсяго гэтага, што **БССР ёсьць толькі фікцыя беларускай дзяржаўнасьці,** бо ці-ж самыя Беларусы так разбуралі-б сваю нацыянальную беларускую культуру і масава нішчылі ейных найвыдатнейшых тварцоў?

Такую-ж палітыку, у галіне гаспадаркі і культуры, бальшавікі распачалі і ў акупаванай імі ў 1939 годзе Заходняй Беларусі. Толькі вайна не дала тамашнім беларусам поўнасьцю паспытаць усіх асалодаў савецкага раю.

Такім чынам бальшавіцкая Масква, акупаваўшы ў 1919-1920 г.г. Беларусь, ліквідавала ейную дзяржаўнасьць і незалежнасьць, стварыўшы фікцыю, нібы новае беларускае дзяржаўнасьці — БССР, гвалтам уцягнула яе ў склад Савецкага Саюзу, а потым прыкладам і штыком, агнём і дынамітам, на касьцёх нашага народу і руінах беларускай гаспадаркі ды культуры, яна пракладала свой жыдоўскі сацыялізм.

26 гадоў маскоўска-бальшавіцкае палітыкі ў дачыненьні да Беларусі поўнасьцю нас пераканалі ў тым, што бальшавіцкія дэмагогі і ашуканцы ашукалі наш народ, адабраўшы ад яго ўсё чыста з таго, што раней яму наабяцалі. Таму цяпер, нават больш раней, мы пераканаліся ў тым, што

**савецкая ўлада для нас — сьмерць. Сьмерць духовая і фізычная!** У гэтым яшчэ больш пераконвае нас Масква сваёй сёньнешняй палітыкай бандытызму, правакацыі і тэрору, скіраванага супраць нашага народу тут, у нас і там па той бок фронту ў ізноў акупаваных ёю беларускіх землях. У гэтым аканчальна пераконваюць нас нядаўна выкрытыя пляны Масквы — поўнага фізычнага вынішчэньня нашага народу, да чаго яны ўжо і прыступілі ў Смаленшчыне, Браншчыне ды ўсходніх частках Віцебшчыны і Магілёўшчыны.

Ці-ж можам мы пасьля ўсяго гэтага чакаць ад іх ласкі?

Не, ня можам! Ня можам і ня хочам! Мы горды і волялюбівы народ! Нас не зламалі стагодзьдзі ліхалецьцяў. Мы першрывалі ўсялякі прымус і паняверку. Мы ўжо даўно прысягнулі на волю і шчасьце! Прага да волі — наш сьцяг! **І мы яму ня маем права здрадзіць!**

Таму бяручы гэта на ўвагу, мы змушаныя ставіць тут пытаньне аб аканчальным разрыве з бальшавіцкаю Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах. Гэтае пытаньне было вырашана наказам Першага Усебеларускага Кангрэсу, Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі ў векапомным акце 25 Сакавіка. Яго фактычна разьвязала ў 1941 годзе нямецкая зброя. Але наш народ яшчэ дагэтуль не сказаў свайго апошняга слова. Гэта і павінен зрабіць наш кангрэс. Кангрэс павінен прызнаць, што створаная Масквою бутафорная беларуская дзяржаўнасьць — БССР — ёсьць ад пачатку і да канца дрэнна замаскаванай фікцыяй, нават і цяпер з ейнымі новымі камісарыятамі замежных і вайсковых справаў.

Калі-б мы прызналі БССР за сваю запраўдную беларускую дзяржаву, багаславілі яе на дабраахвотны ўваход у склад Савецкага Саюзу, ды вызналі за аўтарытэтную для сябе савецкую канстытуцыю, тады-б мы на падставе арт. 15 канстытуцыі БССР, дзе сказана, што «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка пакідае за сабою права вольнага выхаду з СССР», прынялі-б тут пастанову аб выхадзе Беларусі з Савецкага Саюзу. Але гэта мы ня прызнавалі і ня прызнаем. Таму з гістарычнай трыбуны гэтага і Першага Усебеларускіх Кангрэсаў, адкуль відаць уся нашая Бацькаўшчына Беларусь і сталіцы ўсяго сьвету, я прапаную Кангрэсу заявіць урадам і народам усіх краінаў, што **мы — Беларусы аканчальна парываем усялякія сувязі з Масквою.**

Адначасна мы сьцьвярджаем, што ўсялякі голас Масквы ў Беларускіх справах павінен уважацца імі за ня маючы ніякай праўнай сілы, а твораныя Масквою нібы беларускія ўрады — ніякіх праўных кампэтэнцыяў.

Да гэтага аканчальнага разрыву з Масквой клічуць нас косьці загубленых ёю 1.800.000 найлепшых сыноў нашага народу!

Да гэтага клічуць нас пралітыя ёю рэкі сьлёзаў і крыві нашага народу! Кожная кропля гэтай нявіннай крыві пякучым агнём гарыць у нашых

сэрцах і кліча да помсты!

Гэтага патрабуюць ад нас нават каменьні ад разбураных бальшавікамі нашых сьвятыняў і помнікаў.

Няхай-жа памяць крывавага бальшавіцкага панаваньня ў нашым краю зарасьце чартапалохам і крапівою!

Слава вольнай Беларусі і яе гордаму і волялюбіваму народу!»



Дэлегаты і госьці Другога Усебеларускага Кангрэсу

# ЗЕРЦАЛО ЖИТИЯ

## Еўфрасіньня Полацкая

Вячаслаў Шалькевіч



*Л. Новікава. «Еўфрасіньня Полацкая марыць аб будучыні свайго народу». Конкурс «Гісторыя Беларусі ў жывапісу, графіцы і скульптуры», Берасьце 1994 г., сярэдняя школа №10, 11 кляс*

У Евангельлі Ісус расказаў нам выдатную прытчу пра сейбіта, які раньняй вясной выйшаў у поле, каб даверыць зямлі каштоўнае зерне будучага жніва. Вось ідзе сейбіт на рыхлых сьвежых баразнах і магутным шырокім жэстам багата рассейвае насеньне. Жэст яго настолькі шчодры і моцны, што частка зерня падае пры дарозе, частка на камяністую глебу, зямлю, зарослую калючкамі, дзе ня можа прынесьці плоду. Але тое, што ўпала на добрую глебу, прыносіць у сто разоў багацейшы ўраджай.

Вось такім першым вялікім сейбітам духоўнага насеньня, духоўнай культуры, хрысьціянскага веравучэньня, дасягненьняў эўрапейскай і сусьветнай цывілізацыі на старабеларускіх землях была наша славутая асьветніца княжна Прадслава з слаўнага гораду Полацак, якая на зары нашай пісанай гісторыі ў XII ст.поўнай мераю ацаніла выдатную ролю асьветы ў жыцьці народу й аддала гэтай справе ўсе свае выдатныя здольнасьці і сілы без астатку.

Полацак быў самым буйным горадам Беларусі таго часу. Першыя напамінкі пра яго ў старажытных летапісах адносяцца да 862 г. Так, у «Повесьці мінулых часоў» сказана: *«В лето 862 власть приня Рюрик.. и раздая мужем своим грады: овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро».*

З глыбокай старажытнасьці Полацак вядомы як буйнейшы цэнтр рамяства і гандлю. Палітыку Усяслава Брачыславіча па ўмацаваньню Полаччыны працягвалі ягоныя сыны. У сям'і наймалодшага, Сьвятаслава, ў пачатку XII ст. і нарадзілася дачка, якой суджана было стаць адной з самых славутых гераінь беларускай гісторыі. Дзяўчынцы далі язычніцкае славянскае імя —Прадслава.

Бацькі Прадславы былі па тым часе адукаванымі людзьмі. (Яе бацька быў вывезены і некаторы час жыў у Бізантыі, дзе пазнаёміўся з дасягненьнямі бізантыйскай культуры). Бацькі пастараліся даць дачцэ добрае хатняе выхаваньне, якое прадугледжвала навучаньне грамаце,што ў часы XI—XII стст. сярод жанчын было рэдкасьцю.«Жыціе» нашай гераіні, напісанае ў XIУ ст., расказвае, што ўжо ў раньнім дзяцінстве яна была вучана *«кніжнаму пісаньню»*, якое ўключала такія прадметы, як чытаньне, пісьмо, лічэньне, сьпевы, а таксама грэчаскую і лацінскую мовы. У працэсе навучаньня Прадслава праявіла незвычайныя здольнасьці. Акрамя надзвычайнай таленавітасьці яна ўражвала таксама ўсіх сваёй прыгажосьцю. Вестка аб тым, што ў князя ў Полацку расьце прыгожая, мудрая і набожная княжна разыйшлася далёка за межы Полацкай зямлі. У Полацак зачасьцілі сваты. Аднак сватаўство прыносіла любімай дачцэ многа горычы. Гасьцінны полацкі князь, праводзячы гасьцей, гаварыў з паклонам, што дачка яшчэ маладая і няволіць яе ён не зьбіраецца. Але нарэшце і ён вымушаны быў уступіць.

Даведаўшыся, што яе хочуць абручыць з маладым князем Прадслава тайна («утаившися от отца своего и матери и всех домашних») пабегла ў манастыр, ігуменьняй якога была яе цётка Раманьня, і вырашыла пастрыгчыся ў манахіні. Цётка, бачучы юны цьвітучы ўзрост сваёй пляменьніцы, а гэтакжа высьцерагаючыся гневу роднага брата —князя Юрыя (Сьвятаслава), спачатку працівілася яе жаданьню. Але пабачыўшы непахісную волю, а таскама *«удивившися разуму отроковицы... повеле воле ее быти».* Пры пастрыжэньні ў манахіні Прадслава, як сказана ў яе «Жыціі», атрымала імя Еўфрасіньні.

Пры пастрыжэньні ў манахіні Еўфрасіньні было крыху больш 12 гадоў і гэтая падзея магла адбыцца не раней 1117 году, бо Раман—муж цёткі Раманьні, памёр у 1116 г.,пасьля чаго яна пайшла ў манастыр. Манастыр, ігуменьняй якога была цётка Еўфрасіньні, мог знаходзіцца ў цэнтры Полацка паблізу Сафійскага сабору.

Юная княжна пераступіла парог манастыра ня толькі для таго, каб цалкам праводзіць жыцьцё ў малітвах і пастах, але каб поўнасьцю прысьвяціць сябе навуковай і асьветніцкай працы, каб дасканала авалодаць тагачаснай кніжнай мудрасьцю і перадаць гэтую мудрасьць іншым людзям.

Гэты занятак захапляў яе зь дзяцінства і манастыр у той час быў адзіным сродкам для рэалізацыі падобнай жыцьцёвай мэты.

Прадметам чытаньня і разважаньня Еўфрасіньні былі перш за ўсё Біблія, перакладзеная ў IX ст на славянскую мову Кірылам і Мяфодзіем, а таксама розныя зборнікі («изборники»), складзеныя з твораў рэлігійна-маральна-філёзоўскага зьместу, урыўкі з павучэньняў бацькоў і настаўнікаў царквы. Гэта перш за ўсё былі такія зборнікі як «Залатаструй», складзены ў IX ст. балгарскім царом Сымяонам,ён уключаў у сябе ўрыўкі з гутарак Іаана Златавуста; «Шестоднев», складзены балгарскім экзархам Іаанам, што зьмяшчаў тлумачэньні першых разьдзелаў Бібліі, «Измарагдам», зборнік урыўкаў з прац Іаана Златавуста, Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова й інш. Гэта былі таксама розныя «Патерики»(так зваліся зборнікі, што зьмяшчалі жыція сьвятых), а таксама непасрэдна творы саміх бацькоў і настаўнікаў царквы.

Скарыстоўваючы радство полацкага княжацкага дома з домам бізантыйскага імператара, юная асьветніца з кніг, што атрымала з Канстантынопаля, сабрала багатую асабістую калекцыю,якая стала асновай ўнікальнай бібліятэкі пры полацкім Сафійскім саборы. Зь цягам часу бібліятэка пры Полацкай Сафіі (пастаянна папаўняўшаяся рэдкімі кнігамі і рукапісамі), стала сапраўдным духоўным скарбам усходнеславянскіх зямель, выклікаючы сапраўднае захапленьне. Аб гэтым, у прыватнасьці, сьведчаць «Запіскі аб Маскоўскай вайне», якія належаць пяру сакратара польскага караля Стэфана Баторыя—Рэйгольду Гейдэнштэйну. Расказваючы аб узяцьці С. Баторыям Полацка ў 1579 г., Р. Гейдэнштэйн піша, што салдаты Стэфана Баторыя —палякі, венгры і немцы—любой цаной імкнуліся пранікнуць у Полацкі замак для таго, каб захапіць казачныя скрабы, што захоўваліся там у Сафійскім саборы. Аднак, калі армія С.Баторыя ўступіла ў Верхні замак, то *«у вачах адукаваных людзей,*—пісаў Р.Гейдэнштэйн,—*амаль ня меншую каштоўнасьць, чым ўся астатняя здабыча мела знойдзеная там бібліятэка. Акрамя летапісаў, у ёй было многа сачыненьняў грэчаскіх бацькоў царквы, і між імі творы Дыянісія Арэапагіта аб нябеснай і царкоўнай іерархіі, усё на славянскай мове».* [1]

Дарэчы заўважыць, што да гэтага часу багацьці Полацкай Сафіі прыкметна паменшылі, бо ў 1563 г. Іван Грозны, заняўшы Полацак, вывез з полацкага Сафійскага сабору ў Маскву 300 падвод золата, серабра й іншых каштоўнасьцей, сярод якіх маглі быць і кнігі.

Набыўшы шляхам самаадукацыі вялікую і грунтоўную эрудыцыю ў галіне рэлігійна-маральнай і філязоўскай літаратуры, Еўфрасіньня Полацкая бярэцца за найцяжэйшае рамяство таго часу, якое патрабавала навуковай падрыхтоўкі, цярпеньня, мастацкіх здольнасьцяў—рамяство перапісчыка кнігі. Частка перапісаных Еўфрасіньняй кніг лягла ў аснову манастырскіх бібліятэк Полацкага княства, што пачыналі тады фарміравацца. Другая-ж частка—прадавался, а выручаныя за іх грошы княжна-манашка шчодра раздавала жабракам.

Акрамя перапісваньня кніг Еўфрасіньня займалася таксама перакладамі рэлігійна-філязоўскай і маральнай літаратуры з грэчаскай і лацінскай моваў на славянскую мову, чым гэтак-жа значына ўзбагаціла духоўную культуру нашага народу таго часу.

Ёсьць усе падставы меркаваць, што ёю былі закладзены таксама асновы беларускага летапісаньня. У выніку падзьвіжніцкай дзейнасьці асьветніцы полацкая Сафія на працягу некалькіх наступных стагодзьдзяў стала важным цэнтрам духоўнай культуры Беларусі. Дзякуючы заснаванай пры ёй Еўфрасіньняй бібліятэкі, многія пакаленьні палачан, жыхароў Полацкага княства змаглі атрымаць добрую адукацыю, далучыцца да духоўных скарбаў чалавецтва, не пакідаючы межаў горада і княства. Таму кожны, хто атрымліваў тады добрую адукацыю на радзіме, гэтак-жа, як і паэт Мікола Гусоўскі, аўтар «Песьні пра зубра», можа з гонарам

сказаць:

Мудрасьці святло вывучаў я па кнігах славянскіх,

Старажытным і новым, кірыліцай пісаных вязкай.

Еўфрасіньня, як сьведчыць яе «Жиціе» пісала і свае творы. Гэта былі перш за ўсё малітвы і павучэньні рэлігійна-маральнага зьместу. Форма і стыль павучэньняў, яркія і маляўнічыя, сьведчаць аб несумненным літаратурным таленьце іх аўтаркі. Прывядзем невялікі фрагмент адной з пропаведзей Еўфрасіньні, зьвернутай да манахінь Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра: *«Вось сабрала я вас як наседка куранят пад крылы свае, нібы божых авечак на пашу пасьвіцца ў загадах божых. І з добрым сэрцам клапачуся аб вашым выратаваньні і навучаю вас, спадзеючыся ўбачыць духоўны плён вашай працы. Ужо столькі слоў навукі божай сеяла я на ніве вашых сэрцаў, але нівы гэтыя на месцы стаяць, не цьвітуць дабрадзейнасьцю і дасканаласьцю... Малю вас, сёстры мае, станьце чыстай пшаніцай Хрыстовай і зьмяліцеся на жорнах малітвы, пакоры і чыстай любові, каб быць духмяным хлебам на сьвяце Хрыста».*[2]

Як бачым, Еўфрасіньня Полацкая—гэта ня толькі шырока адукаваны чалавек, асьветнік-падзьвіжнік, ці, як пазьней гаварыў Франьцішак Скарына,«милосник науки», які вышэй за ўсё цаніў кнігі і сапраўдную вучонасьць,але гэта таксама наш першы пясьняр, прапаведнік, наш першы маральны філёзаф. Ад яе, як і Кірылы Тураўскага, пачынаюцца нашы традыцыі нацыянальнай філязофіі, якія ідуць да Франьцішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Сымона Полацкага й іншых вялікіх сыноў беларускай зямлі.

Запаветнай марай маладой асьветніцы была педагагічная праца, адукаваньне народу, навучаньне простых людзей грамаце, стварэньне вучылішчаў і школ. Нібы ўгадаўшы яе жаданьне, полацкі япіскап Ілья, бачучы бязмежнае самаахвяраваньне маладой манахіні, запрапанаваў ёй стварыць недалёка ад Полацка ў вёсцы Сельцо жаночы манастыр. У вёсцы знаходзіўся загарадны архірэйскі дом зь невялікай драўлянай царквой сьвятога Спаса, якія і павінны былі стаць асновай будучага манастыра.

Паданьне гаворыць, што незадоўга да гэтай размовы Еўфрасіньня тры разы бачыла ў сне ангела, які гаварыў ёй, паказваючы на Сяльцо: «Здесь ти подобает быти». Зразумела, Еўфрасіньня не магла адмовіцца ад гэтай прапановы і стала ігуменьняй жаночага Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра.

У выдатным дасьледаваньні вядомага рускага вучонага В.Грыгорьева «Гістарычны нарыс рускай школы» адзначаецца,што «Еўфрасіньня Полацкая ... арганізаваўшы манастыр, зрабіла ўмовай навучэньне грамаце манашак»[3] Грамаце абучалі ня толькі прымаемых манахінь, але таксама ўсіх жадаючых сьвецкіх жанчын. І гэтай справе Еўфрасіньні дапамагалі такі-ж як яна дзяўчаты княжага роду захопленыя ідэяй асьветніцкай, якія ўзялі прыклад зь Еўфрасіньні і пастрыгліся ў манахіні. Гэта была перш за ўсё малодшая сястра ЕўфрасіньніГрадзіслава, якая пры пастыржэньні ў манахіні атрымала імя Еўдакія, дваюрадная сястра Еўфрасіньні Зеніслава, дачка князя Барыса, атрымаўшая імя Еўпрасія, а таксама пляменьніцы Еўфрасіньні, дочкі князя Вячаслава—Кірынія і Вольга, якія атрымалі пры пастрыжэньні імёны Агафʼі й Еўфіміі.

Менавіта прадстаўнікі полацкага княжацкага роду і склалі першы ў гісторыі Беларусі гурток жанчын-асьветніц, месца знахожаньнем якога стаў Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр недалёка ад Полацка. Вядома, падзьвіжніц асьветы было значна больш, але іх імёны да нас не дайшлі. Кіраўніцтвам пры навучаньні грамаце служыла ў той час «Псалтыр». Па сутнасьці гэта быў лямантар, пасьля прахаджэньня якога навучэнец лічыўся граматным, ці як тады гаварылі, кніжным чалавекам, і мог *«чести всякия книги»*.

Таму заканамерна і сымбалічна, што праз тры стагодзьдзі, працягваючы традыцыі Еўфрасіньні Полацкай, менавіта з «Псал-

тыра» пачаў сваю выдавецкую дзейнасьць Францішак Скарына. У прадмове да «Псалтыра» адзначаецца, што яе прызначэньне —перш за ўсё *«детям малым початок всякое добре науки, дорослым помножение в науце, мужем моцное утвержение»*. Усё гэта дае падставы разглядаць беларускага першадрукара як прамога і непасрэднага працягвальніка вялікай справы Еўфрасіньні Полацкай.

Зь імем полацкай асьветніцы зьвязана таксама будаўніцтва храмаў на беларускай зямлі. У прыватнасьці, стаўшы ігуменьняй новазаснаванага манастыра, Еўфрасіньня Полацкая вырашыла замест старой драўлянай царквы ўзьвесьці новую каменную. Для рэалізацыі гэтай задачы быў запрошаны полацкі дойлід Іван. Будаўніцтва царквы заняло роўна трыццаць тыдняў. Будынак царквы ўражвае і сёньня сваімі прапорцыямі, вытанчаннасьцю і прыгажосьцю канструкцыямі. Каштоўнасьць храму падкрэсьлівалася фрэскамі й іконамі, вялікую каштоўнасьць мела ікона Богамаці, што знаходзілася ў Спаскай царкве, напісаная па паданьню евангелістам Лукой. Карыстаючыся сваім радством зь бізантыйскім імператарскім домам, Еўфрасіньня адправіла свайго пасланца Міхаіла да імператара Мануіла Комніна і канстантынопольскага патрыярха Лукі Хрызавера з багатымі дарамі ды адначасова з просьбай прыслаць у яе манастыр адну з трох ікон Багародзіцы, напісаных евангелістам Лукой. Гэтыя іконы знаходзіліся ў розных гарадах—Канстантынопале, Ерусаліме й Эфесе. Імператар і патрыярх прыслалі Еўфрасіньні ікону Богамаці з горада Эфеса, якая называлася Адзігітрыяй (г.зн. Пуцяводнай). Лёс гэтай іконы, пасьля сьмерці Еўфрасіньні, невядомы. Паводля адной версіі, ікона ў 1239 годзе з нагоды шлюбу дачкі віцебскага князя Брачыслава зь князем Аляксандрам Неўскім была перавезена з Спаса-Еўфрасіньнеўскай царквы ў горад Тарапец Пскоўскай губэрні ў Васкрасенскую царкву.

Вялікую каштоўнасьць прадстаўляў таксама крыж Еўфрасіньні Полацкай, зроблены ў 1161 годзе па яе заказу славутым майстрам Лазарам Богшай і падараваны ею навечна Спаскай царкве. Завяршыўшы будаўніцтва Спаскай царквы. Еўфрасіньня прымаецца за ўзьвядзеньне новага храма—царквы сьвятой Багародзіцы, каля якой ўзьнік мужчынскі манастыр. Магчыма, па яе задуме былі ўзьведзены й іншыя выдатныя будынкі. Аднак ад іх да нашых дзён не засталося нават сьледу.

Месцам пастаяннага знаходжаньня Еўфрасіньні стала Спаская царква. Менавіта тут на хорах Спаскай царквы знаходзілася келія нашай выдатнай асьветніцы, у якой у пастаяннай працы і малітвах праходзілі годы яе жыцьця, кіруючай думкай якога была думка пра дабрабыт і працьвітаньне роднай зямлі.

На схіле гадоў Еўфрасіньня вырашыла зьдзейсьніць паломніцтва ў Канстантынопаль і Ерусалім. У часе знаходжаньня ў Ерусаліме вясной 1173 г. яна занядужыла і памерла

Пасьля яе сьмерці яе сьвятасьць прызналі як праваслаўная, так і каталіцкая цэрквы. Аднак значна раней за іх гэта зрабілі палачане. Як толькі ў Полацку даведаліся пра сьмерць Еўфрасіньні, жыхары горада не чакаючы афіцыйнай кананізацыі, прызналі яе сьвятасьць і пачалі сьвяткаваць дзень яе памяці 23 мая. У гэтым факце знайшло выяўленьне прызнаньня ўсеагульнай любові да вялікай асьветніцы.

Бібліяграфія

1.Гейдэнштэйн Р. Записки о Московской войне (1578-1582). Спб. 1889, с. 72, Щапов Я. О судьбе библиотеки Полоцкого Софийского собора.—«Вопросы истории», 1974, №6, с. 200-204

2.Житие преподобной Ерфросиньи, княжны Полоцкой, Витебск, 1888, с. 13.

3.Григорьев В.В. Историчекий очерк русской школы. М.,1900, с. 10



# Абарона Айчыны

Леў Мірачыцкі

*Да 200-х угодкаў Вызвольнага паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі*



*Помнік Тадэвушу Касьцюшку ў Кліўленьдзе, ЗША*

*Пойдзем жыва да Касьцюшкі...*

Тыдзень прайшоў у турботах і нарадах. Узгадняліся планы паўстаньня. Не драмаў і праціўнік, які падцягваў свае вайсковыя злучэньні. Насустрач у накірунку Радама рухаўся з паўстанцкім войскам і Касьцюшка, дзе расейскі пасол Ігельстром зьбіраў сілы для іх разгрому.

У вярстах 60-ці ад Кракава ля вёскі Рацлавіцы Касьцюшка прыкмеціў прыдатную пазіцыю для бітвы і для абароны. Спрактыкаванаму ў вайсковай справе воку адкрывалася поле, якое праціналі глыбокія і доўгія рвы, бачылася горка, а па другі бок поля, адкуль чакаўся праціўнік, прасьціраўся густы лес. Насупраць яго Касьцюшка загадаў акапацца. Тут, 4 красавіка, і адбылася бітва. Сам Касьцюшка заняў месца ў цэнтральнай частцы пазіцыі. Зь левай стараны вырашыў разьмясьціць пяхоту генэрала Заёнчака, а з правага боку—кавалерыю генэрала Мангета й атрад у паўтары тысячы шабляў Мадалінскага. За горкаю у рэзэрве пакінуў дабраахвотнікаў касінераў.[1]

Па данясеньню з-за лесу зьявілася 3-х тысячная армія з 12 гарматамі расейскага генэрала Тормасава. Касьцюшка атрымаў інфармацыі, што набліжаецца 3-х тысячная армія ген. Дзянісава з 11 гарматамі. Салдаты Тормасава і Дзянісава дасканала спазналі вайсковую дысьцыпліну і тактыку бою за

*Заканчэньне. Пачатак №3(33)*

доўгія гады службы ў царскім войску. У Касьцюшкі такіх вышкаленых воінаў не было

Каля трох гадзін папалудні паказаўся казачы разьезд, які віхрам прамчаўся ўздоўж акопных пазыцыяў паўстанцаў і хутка зьнік. Зацішша было нядоўгім. Падыходзілі калоны войск праціўніка.

З горкі было бачна як выкатваліся гарматы, як устанаўлівалі іх артылерысты вакол земляных валаў. Затым пад прыкрыцьцём артылерыйскай пальбы расейская пяхота кінулася наступаць. Націск яе быў рашучы, імклівы.

Пачалася бітва.

На цэнтр ударылі 2 адборныя батальёны генэрала Тормасава. Другія— на правае крыло, дзе разьмяшчаўся атрад Мангета. Касьцюшку прыйшлося перавесьці стральбу на калону, якая рухалася ў бок левага крыла. Гэта прымусіла пяхоту праціўніка залегчы. Вялікі роў на шляху калоны Тормасава замарудзіў яе наступ. Гэтую затрымку і скарыстаў кіраўнік паўстаньня. [2]

—Забраць гарматы!—клікнуў ён касінерам.—Наперад! Бог і Айчына з намі!

Яны-ж раптоўна наляцелі на абсулыгу гармат, спрытна арудавалі косамі, быццам гэта быў іх звычайны занятак. Хтосьці зь іх падаў, але ў бунтарскім парыве яны на гэта на зьвярталі ўвагі. Войцех Бартос быў першым, хто спраўна перахапіў кнот у артылерыста, калі той паднёс яго да ствала гарматы. Натхнённыя адважным учынкам Бартоса, касінеры хутка справіліся са сваімі задачамі, і батарэі з трох гарматаў былі ў іх распараджэньні. Іх павярнулі й адкрылі пальбу супраць войска Тормасава. Касьцюшкоўцы змаглі атрымаць перамогу, якая акрыліла іх на далейшае змаганьне. [2]

Тым часам бурліла сталіца Варшава. Кароль Станіслаў Аўгуст Паняноўскі выступіў 2 красавіка з адозвай да народу, тлумачыў, што *«Францыя, якая сама гіне ад беспарадкаў, уводзіць нас у зман. Наша паўстаньне ёсьць інтрыга чужаземцаў, што зьявілася зборяй у руках прадажных людзей»*. Але патрыёты ня слухаліся і распрацоўвалі сумесныя планы дзеяньняў.

У гэты час актыўна вялася падрыхтоўка да паўстаньня і на землях Вялікага княства Літоўскага, асабліва ў ваколіцах Вільні, Гародні, Наваградка і Коўні. Ужо 7 красавіка падпалкоўнік Літоўскага палка Стэфан Грабоўскі, які раскватэраваўся паблізу Менскай губэрні ад імя Касьцюшкі абвясьціў сваім падначаленым афіцэрам задачы паўстаньня, растлумачыў сытуацыю і давёў, што зброя павінна быць накіравана супраць тых, хто ня будзе садзейнічаць выратаваньню Айчыны. [3]

Краёвых патрыётаў падбадзёрыла вестка аб тым, што 17 красавіка паўстаньне ахапіла Варшаву. А ў ноч з 22 на 23 красавіка паўстанцы на чале з палкоўнікам Якубам Ясінскім вызвалілі ад расейскіх войскаў Вільню—сталіцу Вялікага княства Літоўскага. Імі ўтворана Найвышэйшая Рада, куды ўвайшлі наваградзкі ваявода Язэп Несялоўскі, мінскі стараста Міхал Бражстоўскі, літоўскі канюшы Міхал Грабоўскі, рэчыцкі падкаморы Станіслаў Валовіч, аршанскі маршалак Мікалай Храпавіцкі, прафэсар і рэктар Віленскай акадэміі Марцін Пачобут-Адляніцкі і інш. Усяго 28 чалавек. Найвышэйшая Літоўская Рада, якая з гэтага часу прыняла на сябе ўсю ўладу ў княстве прызначыла Якуба Ясінскага галоўнакамандуючым паўстанцкім войскам ВКЛ. Яна абвясьціла Акт аб паўстаньні народу і разаслала універсал (звод дакументаў) у ваяводствы, паветы і «вольныя гарады» прасіла дапамагчы змагацца «пакуль Рэч Паспалітая не вызваліцца зусім ад іншаземнага войска».30 красавіка Рада ўхваліла адозву«Да земляробаў і сялян»,у якой заклікала бараніцца ад чужынцаў-захопнікаў.

2 траўня Рада прыняла адозву «Да жаўнераў расейскіх», у якой пераконвала іх у законнасьці літоўскага (беларускага) народу за сваю свабоду і незалежнасьць. Былі прыняты й іншыя звароты, напрыклад,«Да вуніятаў і праваслаўных», «Да татараў», у каторых тлумачылася важнасьць падзеі і была просьба дапамагчы абараніць Айчыну, якая апынулася ў небясьпецы.Звароты знаходзілі разуменьне і падтрымку. Да ся-

рэдзіны траўня амаль палоі а тэрыторыі княства была вызвалена. [4]

Аднак сілы былі няроўнь мі. На землі княства прыбывалі новыя сілы, якія адразу-ж вялі наступальныя дзеяньні. Асабліва вызначыліся вайсковыя злучэньні пад камандаваньнем расейскага палкаводца Аляксандра Суворава, перакінутыя сюды загадам Кацярыны II з-пад турэцкай граніцы, каб прадухіліць распаўсюджваньне рэвалюцыйнай «французскай заразы». 14 верасьня ягоныя хлопцы пад Дывінам разбілі трохсоценных атрад паўстанцаў. Наступным днём перадавыя атрады ягонага войска ў прадмесьці Кобрына вялі бой з патрыётамі генэрала Казіміра Рушчыца. Ахвяры паўстанцаў былі вялікія, і Сувораў з прыемнасьцю паведамляў, што сілы атрада павятовага генэрала-маёра Рушчыца ім «рассеяны», некалькі дзесяткаў паўстанцаў трапіла ў палон. Параненаму Рушчыцу з 50 паўстанцамі ўдалося адысьці ў накірунку Бярэсьця.

Буйнейшая бітва корпуса паўстанцаў, у якім было да 11 тысяч чалавек, у тым ліку каля трох тысяч беларускіх сялян-касінераў, што паходзілі з акалічных вёсак з-пад Слоніма, Ружанаў, Бярозы,адбылася 17 верасьня каля вёскі Крупчыцы непадалёку ад Кобрына. Аб паўстанцах, якімі камандываў Караль Серакоўскі,расейскі палкаводзец, адзначаючы мужнасьць, пісаў: *«Атакованный неприятель сражался сильно более 5 часов, но разбит, потерял убитыми до двух тысяч...»*[5] Тых паўстанцаў-сялян, якія спрабавалі ўратавацца за сьценамі мясцовага кляштара Кармелітаў,бязьлітасна засеклі казакі шаблямі.

19 верасьня пад Тэраспалям у ваколіцах Бярэсьця адбылася васьмігадзінная бітва паўстанцаў Серакоўскага з рэгулярным войскам Суворава. Яе вынікі таксама былі трагічнымі. Аднак паўстанцы паказалі, што яны сіла, якая «ўпарта змагаецца» і «добра манеўруе».

Адным з таленавітых кіраўнікоў паўстаньня быў Стэфан Грабоўскі, які паказаў сябе мужным у час бітваў з расейскімі войскамі пад Вільняй, Палянамі і Соламі, узначаліў дыверсыйны рэйд па Міншчыне і Магілёўшчыне, з баямі прайшоў з сваім тысячным атрадам з-пад Іўя, праз Ракаў, Пухавічы,Бабруйск і каля Любані быў узяты ў палон вайсковымі злучэньнямі князя Цыцыянава. [6]

30 верасьня у Гародні адбываецца нарада Тадэвуша Касьцюшкі з кіраўнікамі паўстаньня. Па яго загаду яны пакідаюць горад над Нёманам і адступаюць да Варшавы, каб бараніць яе. 10 кастрычніка ў бітве пад Мацяёвіцамі Тадэвуш Касьцюшка, будучы цяжка параненым, быў узяты ў палон расейскімі казакамі. У няволю трапілі і многія іншыя патрыёты. Кіраўніком паўстанцкіх сілаў быў прызначаны зямляк Касьцюшкі Тамаш Ваўжэцкі.А тым часам адбывалася ўзмоцьненая канцэнтрацыя расейскіх узброеных сілаў.

Прайшло тры тыдні пасьля прайгранай бітвы пад Мацяёвіцамі. Івось 4 лістапада аб'яднаныя царскія войскі пад камандаваньнем Суворава рушылі на кравапралітны штурм варшаўскага прадмесьця Прагі. Тут нікога не шкадавалі. Было вынішчана ўсё мясцовае насельніцтва. У гісторыю гэтая бітва ўвайшла пад назвай «рэзь Прагі». За ўзяцьце Варшавы вялікі палкаводзец атрымаў званьне фельдмаршала [7].

Пасьля жорсткай расправы зь мірным насельніцтвам сумна і маўкліва выглядала прадмесьце Прагі. Воды Віслы несьлі яе ахвяры. Гэта быў фінальны канец Рэчы Паспалітай, у якое ўваходзіла і ВКЛ. Рэч Паспалітую падзялілі на кавалкі Расея, Прусія й Аўстрыя.

*Касьцюшкоўская легенда*

Ва ўсьведамленьні ліцьвіноў-беларусаў усіх насельнікаў былога ВКЛ імя Тадэвуша Касьцюшкі стала легендарным, бо ён і ягоныя паплечнікі ўпісалі слаўную старонку ў гісторыю барацьбы народаў Беларусі, Літвы, Польшчы за волю і незалежнасьць. І хаця ім не пашчасьціла выратаваць сваю Айчыну ды ажыцьцявіць ідэалы аб дэмакратычным грамадзтве, пабудове людзкіх адносін на прынцыпах роўнасьці і ўзаемнай павагі, яны як эстафету перадалі новым па-

каленьням веру ў свае сілы, дух свабоды.

Люд беларускі ўшаноўвае сваіх абаронцаў. Сярод простых людзей бытуе легенда, што калі з мацяёвіцкага поля бітвы царскі канвой вёз параненага Касьцюшку і ягонага ад'ютанта праз землі «Забранага краю» распаўсюджваліся чуткі, што «сапраўдны Касьцюшка ўцёк за граніцу», што «ён змагаецца за вольнаць іншых народаў». Другія людзі гаварылі, што «на Падолі і Валыні расейскія стражнікі паказвалі яго насельніцтву, што ён жывы». Трэція сцьвярджалі, што «новы расейскі імператар пасяброваў «з нашым важным ліцьвінам і адпусьціў яго на волю». І ў гэтых народных пагалосках была ўсё-ж доля праўды. Малады цар—імпэратар Павал прыхільна аднёсься да палоннага кіраўніка паўстаньня 1794 г. Ён нават наведаў яго і прыязна вітаў словамі:

—Я прыйшоў, пан генэрал, каб вярнуць вам волю.

Касьцюшка зразумеў, што гэта сам малады імператар Павал I, і з пашанай схіліў галаву. Цару паказалася, што «мабыць, вязеньня ведае, хто перад ім і тады запытаўся пра гэта. Касьцюшка адказаў, што пазнае ў ім імператара, а ў дараваньні яму волі—пашану,годную вялікасьці трона імператарскага. Затым цар паясьніў, што вельмі спачувае лёсу Касьцюшкі,але ў час цараваньня свай маці ня змог нічым дапамгчы яму. Зараз лічыць першым абавязкам сваёй улады дараваць яму вольнасьць.

—Вы вольны, пан генэрал Тадэвуш Касьцюшка.—паўтарыў яшчэ раз імператар Павал I.

Касьцюшка пакланіўся і сказаў:

—Ваша вялікасьць, я ніколі не наракаў на свой лёс, але ніколі не перастану аплаківаць лёс маёй Айчыны.

У народных песьнях Касьцюшка ўслаўляецца як жывы герой, які «з вайны прыйдзе». Калі даводзіцца сутыкацца з суровай праўдай, тады людзі з сумам зьвяртаюцца да птушак, бо вераць, што яны ведаюць, прадчуваюць. Такой птушкай падаецца воран Да яго і зьвяртаюцца людзі са сваім жалем, а той ляціць цераз мора...

А лятучы, крача.
А хто-ж майго Касьцюшачкі,
Магілку аплача?

У другой песьні, услаўляючы памяць Касьцюшкі, ліцьвін прысягае, што «не дазволіць сябе зьневажаць:

Усе як адзін станем з Касьцюшкам,
Будзьме зь ім сьмела перамагаць [8]

А чаго варта «Песьня беларускіх жаўнераў», якая нарадзілася ў час паўстаньня ў Беларусі і выконвалася ў атрадах, на прывале і на маршы. У ёй гучыць сьмелы заклік «Пойдзем жыва да Касьцюшкі...» [9]

Тут можа ўзьнікнуць жаданьне пачуць думкі самога кіраўніка паўстаньня, якое адбылося 200 гадоў назад і доўжылася 200 дзён. Тадэвуш Касьцюшка лічыў патрэбным ведаць кожнай маладой нацыі, якая хоча быць самастойнай і незалежнай, мець сваю дзяржаву, што перш за ўсё трэба «паверыць у свае сілы». Калі нацыя пазбаўлена гэтага адчуваньня, не прыкладае ўласных высілкаў для захоўваньня свайго існаваньня, а спадзяецца на падтрымку або міласьць чужаземцаў,дык можна сьмела сьцярджаць, што такая нацыя не дабьецца ні шчасьця, ні чэсьці, ні славы. [10] Гэта і быў, мабыць, галоўны запавет нам, нашчадкам Касьцюшкі, кіраўніком паўстаньня 1794 году, якое выклікала і спарадзіла Першую самую масавую беларускую эміграцыю на Захад.

Бібліяграфія

1.M. Kukiel. Historia wojskowosci w Polsce K. 1929. s. 179-183.

2.Zarys dziejow wojskowosci polskiej do roku 1864. t. II, W.1966, s. 254-256

3.Kopczewski.Tadeusz Kosciuszko. W.1968. s.68-70

4. Крыжовы шлях. Мн. 1993, с. 114

5. Народная газета. Мн. 1993, 18 лютага

6.-7. Там-жа

8. Запісана ад Мікалая Карата, настаўніка Карэліцкай школы .

12. Беларуская літаратура XIX ст. Мн.1988, с.8

13. Запісана ад Пятра Біталя,настаўніка Вішнеўскае школы.

# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў

Міхась Белямук.

## Гомельская вобласьць

**Хамінка, Лоеўскі р-н**

Перад 1915 г. на левым беразе р. Сож была знойдзена сасанідзкая манэта Хасроя II (590-628).

*Поболь [2] б. 267, №516*

**Хізаў, Кармянскі р-н**

У 1890 г. В.К. Чарапанаў у раскапаным кургане знайшоў шклозалочаныя пацеркі з XI ст.

*Соловьева б.67, №215, Спіцын [4] б.299, Штыхов[2] б.112, №298*
*ЗПГКБ Гомель, б.225, №1129*

**Хізы, Веткаўскі р-н**

У 1888 г. селянін Сьцяпан Янушэўскі зь іншымі сялянамі раскапалі ва ўрочышчы Дзед курганы. Знайшлі сярэбраную арабскую манэту, сярэбраны пярсьцёнак і сярэбраныя падвескі.

*Соловьева б.67, 216 Романов [5] б.123 Штыхов [2] б.98, №112*

**Хізы, Веткаўскі р-н**

У 1977 г. У. Багамольнікаў раскапаў 2 курганы і знайшоў 2 шклозалочаныя пацеркі.

*Богомольнiков [6] б.410, Яніцкая б.145, №95*

**Хільчыцы, Жыткавіцкі р-н**

У 1927 г. А.Каваленя з С. Шутам раскапалі курганы ва ўрочышчы Горка. Яны знайшлі: сярэбранае скранёвае кальцо, 3 сярэбраныя фільгранвыя пацеркі, сярэбраную пацерку, зробленую з 10 дроцікаў, сярэбраны цэлы пярсьцёнак і 3 сярэбраных паламаных пярсьцёнкаў.

*Каваленя і Шутаў б.358. Кухаренко б.28-30, №195*

**Ходасавічы, Рагачоўскі р-н**

У 1962 г. I. I. Арцёменка і Г.Ф. Салаўёва раскапалі 6 курганоў, у якіх знайшлі: 6 сярэбраных драцяных скранёвых кольцаў, 2 сярэбраныя драцяныя пярсьцёнкі, 5 медзяных пазалочаных гузікаў, 4 шклозалочаныя пацеркі.

*Артеменка, Соловева б. 101-103, мал. 31,32 ЗПГКБ Гомель, б. 308, №1658*

**Ходасавічы, Рагачоўскі р-н**

У 1969 г. С. Шырынскі раскапаў пару курганоў і знайшоў шклозалочаныя пацеркі. Г. Салаўёва каля вёскі адкапала паганскае «святилище» X ст., яна знайшла сярэбраны

*Працяг. Пачатак у № 6(16)-3(33)*

абломак падковападобнай фібулы, якая мае «скандынаўскі арнамэнт».

*Ширинский б.306, Соловьева [9] б.305*

**Холмеч, Рэчыцкі р-н**

Каля 1890 г. У. З. Завітневіч раскапаў 13 курганоў з XI ст., знайшоў 63 пацеркі, але толькі адна была шклозалочаная.

*Яніцкая б. 145, №97*

**Хоцішча, Слаўгародзкі р-н**

Перад рэвалюцыяй Іван Сербаў праводзіў раскопкі селішча, на якім знайшоў 3 бронзавыя бляшкі з птушынымі галоўкамі і выпуклай фігурай чалавека. На бляшках захаваліся сьляды пазалоты.

*Седзін б. 114*

**Целяшы, Гомельскі р-н**

У 1924 г. на беразе р. Узы быў знойдзены арабскі дыргем, чаканены ў Самарканьдзе (Узбекістане) 905/6 г. Ісмаіл ібн Ахмадам.

*Фасмер б. 290 Рабцэвіч і Стуканаў б.35, №17*

**Церуха, Гомельскі р-н**

У 1892 г. М. Філонаў ва ўрочышчы Прудок раскапаў каля 30 курганоў. Паводля Е. Раманава М.Філонаў знайшоў «множество» шклозалочаных і шклосярэбраных пацеркаў. Таксама былі знойдзеныя пацеркі сярэбраныя, ажурныя, некалькі штук. Скранёвыя сярэбраныя сяміканцовыя кольцы, сярэбраныя завушнічкі.

*Романов [5] б. 127 Соловьева б. 66, № 200, Штыхов [2] б. 101, №155., Яніцкая б.130, 36*

**Ціхінічы, Буда-Кашалёўскі р-н**

Не пазьней 1910 г. Е. Раманаў раскапаў 3 курганы, знайшоў сярэбраныя скранёвыя кольцы і шклозалочаныя пацеркі.

*Романов [5] б. 125 Соловьева б. 66, № 204, Штыхов [2] б. 96 №76 Яніцкая б.130, 37*

**Чабатовічы, Буда-Кашалёўскі р-н**

У 1893 г. У. Б.Антановіч раскапаў 14 курганоў. У курганах з жаночымі пахаваньнямі былі знойдзеныя сярэбраныя сяміканцовыя скранёвыя кольцы і шклозалочаныя пацеркі.

*Романов [5] б. 121, Соловьева, б. 67, №225, Яніцкая б. 130, № 38*

**Чамярыя, Веткаўскі р-н**

Каля вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Сяляне часамі знаходзілі ў курганах шклозалочаныя пацеркі й арабскія дыргемы. У 1975 г. С. М. Васільева раскапала пару курганоў і знайшла арабскі дыргем з X ст.

*ЗПГКБ Гомель б. 131, № 487*

**Чаплін, Лоеўскі р-н**

У 1951-1953 гг. у цэнтральнай часцы гарадзішча Э.А Сымановіч знайшоў арабскі дыргем і сярэбраны пласьціністы пярсьцёнак. Дыргем перраслалі ў Рускі гістарычны музэй, дзе супрацоўнік музэю С. Імерані расчытала: Саманіды, з аш-Шаш (Ташкент, Узбекістан), 902/3, Ісмаіл ібн Ахмад.

*Алексеев [6] б.115, Сымонович б. 207, Кропоткин б 93, №180*

**Чаплін, Лоеўскі р-н**

Пачынаючы з 1953 г. Ю. В. Кухарэнка раскапаў 2 курганы, пазьней раскопкі курганоў і селішча працягваліся да 1980 г. ня толькі Ю. Кухарэнкам, але Л. Побалем, В.Мельнікоўскай. Знайшлі 23 шклозалочаныя і 7 шклосярэбраных пацеркаў, сярэбраныя скранёвыя сяміканцовыя кольцы.

*Кухаренко [6] б. 88-89 Поболь [7] б.77-80 Яніцкая б. 125, №9*

**Чэрнічы, Жыткавіцкі р-н**

У 1963 г. М. Гурын ва ўрочышчы Старое Сяло праводзіў раскопкі курганоў на беразе р. Прыпяць. Знайшоў ён сярэбранае скранёвае кальцо дрыгавіцкага тыпу.

*Гурын б. 385*

**Шапчыцы, Рагачоўскі р-н**

У 1986 г. Г.Салаўёва дасьледывала курганны могільнік, у курганах з жаночымі пахаваньнямі знайшла сярэбраныя скранёвыя сяміканцовыя кольцы, бронзавыя пасярэбраныя скранёвыя кольцы, манэтападобныя сярэбраныя падвескі.

*Соловьева [10] б. 352*

**Шапчыцы, Рагачоўскі р-н**

Год знаходкі не ўдакладнены. Каля вёскі быў знойдзены скраб арабскіх дыргемаў, першапачаткова ад скарбу зьберaглося 3 абасыдзкіх дыргемы, але да 1972 г. два дыргемы прапалі, застаўся адзін.

*Рабцэвіч і Стуканаў б. 38, №22.*

**Эрштэрмай, Жлобінскі р-н**

У 1960 г. Г. Штыхаў раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

*Штыхов [2] б.109, № 248*

**Юдзічы, Рагачоўскі р-н**

У 1968-1970 гг. Г.Ф.Салаўёва і Э.В. Загарульскі праводзілі раскопкі курганнага могільніка і знайшлі: сярэбраныя скранёвыя сяміканцовыя кольцы: сярэбраныя скранёвыя бранзалетападобыя кольцы з 3 пацеркамі на дужцы, сярэбраныя зярнёныя пацеркі, сярэбраныя пацеркі бязь зерні. Шклозалочаныя і шклосярэбраныя пацеркі, пярсьцёнкі сярэбраныя, падвескі сярэбраныя манетападобныя.

*ЗПГКБ Гомель б. 310-311, №1669*

**Юдзічы, Рагачоўскі р-н**

У 1979 г. В. Рабцэвіч праводзіў раскопкі курганоў. Былі знойдзены арабскі дыргем абасыдаў з Багдаду, чаканены ў 934/5 г. ар-Рады: сярэбраныя бразготкі, грушкаватыя, пацеркі шклозалочаныя і шклосярэбраныя.

У 1980 г. паўторна В.Рабцэвіч узначаліў экспэдыцыю раскопак курганоў. Гэтым разам былі знойдзеныя: сярэбранае скранёвае кальцо, на дужцы якога 3 пацеркі; сярэбранае скранёвае кальцо без пацеркаў; шклозалочаныя пацеркі.

*Плавінскі [3] б. 41-42  Плавинский [4] б. 35.*

**Юравічы, Калінкавіцкі р-н**

У 1965 г. У. Ісаенка, у 1962 г. А. Гарчанка і Н.Целеш ды ў 1976 г. ізноў У. Ісаенка дасьледывалі каля возера Літвін курганны могільнік і селішча. Падчас раскопкаў былі знойдзеныя: рымская падвоенная шклозалочаная пацерка; сярэбраная філігранавая менскага тыпу пацерка; пацеркі шклозалочаныя і шклосярэбраныя.

*Исаенко б. 251,  Поболь [2] б.257, №396  ЗПГКБ Гомель б.213 №1058*

*Бібліяграфія*

Полоцак №18—Кропоткин, Поболь [2], Рабцэвіч і Стуканаў, Фасмер, Яніцкая
Полацак №19—Штыхов [2]
Полацак №30—Поболь [7]
Полацак №31—Романов [5], Соловьева
Полацак №33—Плавінскі[3]
Полацак №33—Каваленя і Шутаў
Л.В.Алексеев [6]. Сектор славяно-русской археологии. — КСИИМК, №79, М.1960
И.И. Артеменко, Г.Ф. Соловьева. Славянские курганы близ д.Ходосовичы. — КСИА, №96, М.1963
В.В.Богомольников [6]. Работы Радимичского отряда. — АО за 1977. М.1978
М.Ф. Гурин. Раскопки на Припяти. АО за 1983 г. М. 1985
В.Ф. Исаенко. Находка со знаком Рюриковичей — СА., №2, М. 1967
Ю.В. Кухаренко [6]. Чаплинские курганы. — КСИИМК, 172, М. 1958
А.Н.Плавинский [4]. Раскопки курганов у дер. Юдичы.—«Древнерусское государство и славяне». Мн. 1983.
А. Сердзін. З гісторыі вывучэньня помнікаў ... ва ўсходняй Беларусі.—«Час, Помнікі, Людзі», (зб. прысьвечаны памяці рэпрэсіраваных археолагаў). Мн. 1993.
Г.Ф. Соловьева [9]. Археологические раскопки близ Рогачева, Гомельской обл. —АО за 1969. М. 1970
Г.Ф. Соловьева [10]. Раскопки славянских памятников XI—XII вв. в Гомельской обл.—АО за 1968. М.1969
А.А. Спицын [4]. Раскопки Черепанова близ Хизова, Рогочевского уезда. — ЗРАО т. XII, СПб. 1901.
Э.А. Сымонович. Поселение эпохи Киевской Руси в с. Чаплин в южной Белоруссии. СА, №2, М. 1961
С.С. Ширинский. Курганы и дер. Ходосовичы. — АО за 1969. М. 1970



Чаплін —скранёвае кальцо;





Ходасавічы—пярсьцёнкі і гузікі



Прэзыдэнт

Беларускай Цэнтральнай Рады

**Радаслаў Астроўскі**

# Роднае слова

## Із агню ды ў полымя

Міхась Кавыль

*Быліца семнаццатая*

Прыйшоўшы з працы, Язэп, перакусіў, лёг на ложак і стаў «студыяваць» п'есу. Прачытаўшы, сеў за стол і стаў занатоўваць на паперы характэрныя выказваньні герояў драмы з тым, каб выкарыстаць у сваёй прамове. Зрабіўшы выпіскі, Язэп накідаў кароткі канспэкт свае прамовы, як гэта робяць агітатары і прапагандысты.

—Пачну, падумаў Язэп, — з прамовы агітатара: «Сяляне і таварышы». Заля, напэўна, абурыцца за гэтыя словы, бо-ж ніякіх сялянаў у залі ня будзе, а «таварышы» хоць і будуць у пераважнай большасьці, але былыя. Тады я растлумачу, што гэтак распачынаў сваю прамову сталінскі агітатар на сходзе сялянаў, агітуючы іх уступаць у калгас, таму што ў *«нас цяпер поўная сацыялізьма, дык нам патрэбны і калгасы»*. Бачыце, паважаныя спадарыні і спадары, якая бязглуздая логіка. Ня можна не падзівіцца розуму простых людзей, якія не жадалі ўступаць у калгас. Вось выступае вясковы пастух дзед Зьмітрок і кажа: « Калі кароўку даглядае сама гаспадыня, дык яно, малачко, гэтае самае, будзе, людцы добрыя, будзе. А, вось-жа, калі кароўку ўсе, знацца, будуць даглядаць, дык малачка ня будзе, людцы добрыя, ня будзе».

Але-ж сталінаўскія прыхлябацелі, розныя Дышлі ды Вінцэсі Паскудныя, можа некаторыя зь іх і самі того не разумеючы, вынішчалі найлепшых гаспадроў, такіх, як Андрэй Прыдарожны, называючы іх «кулакамі», заганялі пакорлівых у тое калгаснае ярмо. І што-ж мы бачылі? Мелі калгасьнікі, як той дзед Зьмятрок казаў, малачко? Не, людцы добрыя, ня мелі. Сталін і яго папіхачы мелі, а не народ. Як ні душылі Дышлі ды Вінцэсі Паскудныя наш народ, але, як казаў Андрэй Прыдарожны, жыве Беларусь і будзе жыць!

Ужо вечарэла. Нечакана прыйшла Аня, сказала «Добры вечар» і пайшла ў свой пакой. Язэп адказаў па-нямецкі: «Гутэн абенд, фроліт Аня, даўно Вас ня бачыў».Аня выйшла із пакою, села на ложак у прахадным пакоі, адкінула ўзмахам галавы чорныя косы, што лезьлі на вочы і ўсьмешліва запыталася:

—Думаю, геру Язэпу без мяне ня сумна?

—Чаму Вы так думаеце?

—Думаю, бо бачу, як хто да мяне адносіцца.

—Вось гэта Вы ўжо дарэмна так кажаце, Як я магу іначай адносіцца, калі Ваш Якоб кажа: «Ніхт лебен Аня, Джозеп?»

—Які ён мой? —ускіпела Аня. Я зь ім не качалася ў ложку.

—Я ня ведаю пра гэта нічога, але-ж

шакалад прыносіць

—Мне ад аднаго пагляду на той шакалад блявацъ хочацца. Я, як пагляджу на той шакалад, дык бачу на ім кроў. Прывёў да мяне гэтага нямчуру фольскдойч Косьця Фарнэль. Ты яго ведаеш: ён і цябе прывёў. Яны пабылі ў мяне з гадзіну, пайшлі. Назаўтра прыпёрся нямчура сам, бяз Косьці. Гляджу, а ў яго у руцэ тоўстая, уся ў крыві палка.

—Вас іс лёс? —пытаю, паказваючы рукою на палку.

— Іх шлеген юдзіш, —адказвае і рагоча, як жарабец. Я няўпрыкмецъ за дзьверы і дала ходу. З таго часу і ўцякаю да братоў і сястры.

—Ну тады даруйце мне за няўвагу, бо я думаў, што Вы ўцякаеце ад мяне як нямецкага прыслужніка.

—Не, я так ня думаю пра тых, хто служыць у немцаў, бо й я ім служу: падмятаю калідоры, мыю падлогі. Трэба-ж неяк жыць.

—Так. Аня, трэба жыць, як набяжыць, кажа пагаворка. Я ведаю, што Вам жылося да вайны лепей, бо-ж Вы жонка каманьдзіра.

—Гэта ўжо Косьця табе набалтаў?

—Хто-б ні набалтаў, але-ж гэта праўда. Ці ня так?

—Ну, няхай будзе і так, але ты нікому пра гэта не кажы ды і Косьцю скажы, каб трымаў язык за зубамі, бо-ж гэта мне можа пагражаць небясьпекай.

—Усё магчыма. Будзьце спакойны: ад мяне пра гэта ніхто не даведаецца. Ды і Косьця сказаў мне пад сакрэтам. Я думаю, што ён, хоць і фольскдойч, але не прадацель. Я зь ім пагутару. А цяпер хачу спытаць наконт тэатру. Сёньня-ж прэм'ра «Загубленага жыцьця». Вы ня перадумалі?

—Не, я хачу пабачыць, бо даўно не была ў тэатры, а раней вельмі любілі мы з маім Лёняй хадзіць.

Аня заплакала і, выціраючы рукою сьлёзы, пабегла ў спальню. Язэп чуў, як яна там перастаўляла ці адчыняла невялікі куфэрак, які стаяў у яе спальні. Неўзабаве яна вярнулася з коцікавай курткай і мужчынскім касьцюмам у руках.

—На, вось памерай, —працягваючы Язэпу касьцюм, сказала Аня, а куртку паклала на Язэпаў ложак. Язэп узяў ваўняны сіні касьцюм, пайшоў у прыбіральню, памерыў. Касьцюм ляжаў на Язэпу, як на яго шыты. Аня, як убачыла Язэпа, ізноў ледзь ні заплакала, але стрымалася і сказала: «Ты выглядаеш, як брат мойго Лёні. Наўрад, ці дачакаюся я яго. Насі на здароўё. А гэтыя нямецкія транты я выкіну ў сьмецьце. Куртку таксама пакладзі ў свой чамадан. Прыйдзе зіма, будзеш надзяваць».

Язэп ня ведаў, як атудзячыць Ані, дык абхапіў пад пах, прыцісънуў і моцна пацалаваў.

Увечары пайшлі яны ў тэатр. Чэрвеньскае сонца зырка сьвяціла, ажно чырванела, хаваючыся за Дом Ураду, быццам не магло глядзець на разгрувабджаны Менск. Язэп таксама ня мог стрымліваць хваляваньня, праходзячы міма нябожчыкаў-дамоў, якія аскаляліся павыбіватымі вокнамі, дзьвярыма, углядаліся ў неба аголенымі цалгянымі камінамі. Аня таксама час ад часу паглядала то направа, то налева, круціла галавою. Ішлі моўкна, думалі свае невясёлыя думы. Язэп хваляваўся, думаючы пра сваё выступленьне. Яму ніколі не даводзілася выступаць перад людзьмі, і ён баяўся засыпацца. Каб ня думаць пра выступленьне, Язэп зьвярнуўся да Ані: «А ведаеш, Аня, хто той хлопец, што прыходзіў да мяне?

—А хто?

—Партызан.

—Адкуль ты ведаеш?

—Мяне выклікалі ў СД на вочную стаўку.

—А ты яго ведаў раней?

—Так, мы разам былі на фроньце.

—А што яны пыталі цябе?

—Пыталі, адкуль я яго ведаю, чаго, ён, Макарэвіч, прыходзіў да мяне? Ён ім ужо сказаў, што прыходзіў да мяне, каб перананачаваць. І я саксзаў, што я ня быў дома, а Макарэвіч Янка сказаў маёй гаспадыні Ані Бабкевіч, што ён хацеў папрасіць адрас. Я ня ведаю, ці СД ведала, што ён у партызанах, але ў мяне болей нічога ня пыталі й адпусьцілі.

Так гутарачы, яны дайшлі да тэатра. Каля дзьвярэй таўпілася шмат народу.Язэп прайшоў з Аняй да першага раду, сказаў пачакаць яго, а сам палез па невялічкай лесьвіцы на сцэну. Хутка заля напоўнілася людзьмі.Язэп расхіліў занавес і пачаў прамову.Адбарабаніў ён хутка,ні разу ня зьбіўся і выгукнуўшы «Жыве Беларусь!», саскочыў у залю, якая аглушыла яго воплескамі.

«Загубленае жыцьцё» захапіла гледачоў, хвалявала ад пачатку да канца. Гледачамі былі менчукі, зь якіх мала хто паходзіў зь вёскі і перажыў жах калектывізацыі. Таму некаторыя ня верылі, што такое нешта магло адбывацца, як паказвалі й апавядалі артысты. Аня таксама ня верыла, і калі вярталіся дамоў, пытала ў Язэпа: «Няўжо гэта праўда?» Язэп пацьвердзіў гэта і расказаў яшчэ страшнейшую гісторыю, сьведкам якое быў сам.

Назаўтра на працы Сымон Юр'явіч, падыйшоў да Язэпа, працягнуў яму паперку і сказаў: «Прозьба твая задаволена. Можаш ехаць на Случчыну ў госьці да бацькоў. Заўтра а дзявятай падайдзі да былога Дому Чырвонай арміі, дзе зараз канцылярыя Рады даверу. Адтуль пойдзе машына на Слуцак

Язэп падзякваў Краўцову за клопаты і ўвесь дзень у думках хадзіў па роднай вёсцы, размаўляў з маці, сёстрамі, знаёмымі. Прыйшоўшы з працы дадому пахваліўся Ані, што паедзе да родных. Яна пажадала яму шчасьлівай дарогі і пабегла ў Серабранку, бо даведалася на працы ад Косьці Фарнэля, што Якоб меўся нешта ёй прынесьці.

Язэп назаўтра пасьпяшыў да Дому Чырвонай арміі, але там чакала яго непрыемная неспадзеўка: паездка ў Слуцак адмянялася. Ня высьвятляючы прычыну адмены рэйсу, вярнуўся дамоў, пасядзеў у роздуме, што рабіць, і надумаўся схадзіць да Віктара, якога даўно ня бачыў. Язэпу Віктар ня вельмі быў патрэбен, але цікава было ведаць, чым ён займаецца. Ведаў пра яго Праслаў Вярбіцкі, але і ён штосьці не паказваўся. Язэп хацеў даведацца, ці прывозіць ён Маньку. А яна-ж пэўна, у лесе ягады не зьбірае. Віселі ў тэатральным сквэры на дрэвах падпольшчыкі, але Манькі сярод іх не было. Узмацьняюць немцы тэрор, але на тэрор падпольшчыкі адказваюць тым-жа крывавым сродкам: забілі Фабіяна Акіньчыца, Уладыслава Казлоўскага,Вацлава Іваноўскага, а кіраўніка Беларускіх прафсаюзаў завалаклі для расправы ў лес. Франтавыя весткі сьведчаць, што немцам даюць прыкурыць. Бо і «Беларуская газета», і Гуцька праз «тарэлку» прыпынілі «Весткі з фронту», бо няма немцам чым хваліцца. Трэба будзе папытаць у Віктара, ён-жа мае радыё. З гэтымі думкамі і прыблізіўся Язэп да брамы Віктаравага дому. На лямант сабакі з дому выйшла Вера і незадаволена буркнула, стоячы на ганку: «Віктара няма дома», і пайшла назад. Язэп ведаў, што Вера яго ня любіць, таму і «ад варот паварот», ды ўсё-ж падумаў: «А ці ня Манька ляжыць на канапе? Калі ляжыць,хай ляжыць, даляжыцца дурнёха.»

Вярнуўся Язэп дамоў. Па дарозе зайшоў

да бабкі Анюты, купіў бутэльку «Бурачнай», бо думаў, што нехта прыйдзе: ці Мікалай Арочка, ці Косьця Фарнэль, ці Валянтын. Але ў той вечар ніхто не завітаў. Ажно праз пару дзён зьявіўся нечакана Краўцоў.

Язэп павітаўся з Краўцовым і запрасіў у свой пакой. Прысеўшы на табурэтку каля вакна, Краўцоў паглядзеў на радыё на сьцяне і сказаў: «Ня хваляцца штосьці немцы сваімі посьпехамі на фронце». Язэп маўчаў, бо ня ведаў, што казаць: паддакаваць начальніку баяўся, а той казаў далей: «Шрэтар нядаўна прагаварыўся: «русішэ швайн» пайшлі ў «ангрыф». А яшчэ казаў,што Штэрнберга «ніхт шэссэн», бо ён як быццам, угадаў, што «мы будзем мець цяжкасьці «нах Остэн». Штэрнберг так, як ты напісаў у «рапарце»: немцы вайну праіграюць. Шрэтэр ўсё яшчэ ня верыць у пройгрыш, а ў цяжкасьці, хаця стрымаў слова, што ня будзе караць, калі напішам праўду. Так што , Язэп Міхайлавіч, можаш спаць спакойна.

—Прызнацца, —прамовіў Язэп, штосьці неспакойна на душы.

— А ў мяне, думаеш, спакойна?

—Ня думаю. Але ня ведаю, што вас прывяло да мяне.

—А вось, гэты неспакой і прывёў. Жонка мая ў шпіталі. Нешта з сэрцам не ў парадку. Я толькі што ад яе. Доктар Багдановіч кажа, што нічога страшнага няма, але-ж...

—Спачуваю Вам, Сымон Юр'явіч!

Язэп дастаў із шкафчыка бутэльку, паставіў на стол, схадзіўна кухню, прынёс закуску і сказаў:

—Давайце , Сымон Юр'явіч, трошкі вып'ем, палечымся «лякарстам» бабкі Анюты.

Яны выпілі, закусілі і Язэп пацікавіўся:

—Я чуў, ня ведаю ад каго, што Вы мой блізкі сусед, случчак, даўно зьбіраўся пагутарыць з Вамі, даведацца болей пра Вас, бо мяне наагул цікавяць людзі, асабліва такія як Вы, Радаслаў Астроўскі і інш.

—Ну я не прафэсар, як Астроўскі, бо я быў «абаронцам ворага народу», у мяне знайшлі «сыстэму антысавецкіх паглядаў»

—О, дык мы з Вамі, выглядае, із таго самага Саюзу Вызваленьня Беларусі!

—Выглядае, што так, але я ня быў сябрам такого Саюзу.

—Бо яго і ня было. А стварылі яго гэпэвушнікі, каб прышываць гэты Саюз ненадзейным элементам і заганяць іх на пагібель у Сібір ды Калыму.

—Мяне не загналі ў Сібір, але із БДУ, дзе я вучыўся на гістарычным факультэце, на першым курсе, выгналі.Праўда, камісія пры Саўнаркоме БССР устанавіла мяне ў правох студэнта. Дапамаглі мне пахаронка на бацьку, які загінуў як герой за Савецкую ўладу, праца ў газэце «Беларуская вёска», дзе друкаваліся мае артыкулы ў духу «сацрэалізму», дзеддом, дзе я прабыў два з паловай гады, вучоба у профтэхнікуме мэталістаў, праца на заводзе Варашылава. Стаў я ізноў студэнтам, але вісела над маёй галавой «суровая вымова з папярэджаньнем». Я чакаў арышту, баяўся ўсіх і ўсяго. Пыталіся, чаму я быў дзесяць гадоў у камсамоле, а не спрабаваў падаць заяву, каб прынялі ў партыю? Я адказваў, што «яшчэ не лічу сябе падрыхтаваным да гэтага».

Я баяўся хадзіць у Дом пісьменьніка, сустракацца з паэтамі і пісьменьнікамі, за выключэньнем Кузьмы Чорнага. Я, баючыся арышту, кінуў БДУ і паехаў у Данбас капаць «чорнае золата». Цяжкая праца шахцёраў, завербаваных беларусаў, падштурхнула мяне напісаць аповесьць «Чоране золата». Вярнуўшыся із Данбаса, я панёс свой твор Кузьмы Чорнаму. Ён прачытаў і параіў «нікому не паказваць», асабліва раздзел «Ахрэмка».

—А чаму Вы не надрукуеце гэты твор?

—А ўсё зьбіраюся паслаць Сядуры ў «Новы шлях», а ніяк не зьбяруся.

— Мы з Вамі, Сымон Юра'явіч ня толькі сябры геаграфічныя, але і сябры па няшчасьцю. Я таксама быў камсамолец, у партыю ня трапіў, меў «суровую вымову з папярэджаньнем», але ў Данбас ня ўцёк, дык адхапіў тры гады канцлягеру. Але давайце палечымся

Пасьля выпіўкі Краўцоў апавядаў: «За мною, як цень хадзіла «сыстэма антысавецкіх паглядаў», але ў армію ўзялі, накіравалі ў Башкірыю адбываць два гады, назначылі каманьдзірам узводу кулямётчыкаў. 22 чэрвеня 1941 г. адабралі ад мяне кулямётны ўзвод (44 чалавек)'і адправілі ў штрафны будаўнічы батальён на Уральскі алюмініявы завод, пасьля ізноў рэабілітавалі й адправілі ў дзейнічую армію на Украінскі фронт.

—Ну, вось, ізноў нашыя сьцежкі перакрыжаваліся. Я таксама быў на Украінскім. Цікава, дзе вы прарываліся, калі вас акружылі.

—Мы прарываліся праз Шэпятаўку.

—А нам маршал Цімашэнка загадаў прарывацца на Лазавенькі. Ніхто не прарваўся Толькі кавалерыі ўдалося пераскочыць цераз кулямёты і мінамёты, але іх усіх патапілі ў Данцы.

—Нас таксама тапілі ў Данцы. З майго узводу, які мне ўсё-ж даверылі, з 98 чалавек засталося ў жывых толькі 18. Змучаныя, галодныя, мы пападалі ў ляску каля Ліпецка, і нас сонных паланілі аўстрыйцы.

—А мяне румыны.

—Ну а далейшае ты ведаеш.Каб ня прыехалі Ермачэнкаўцы вызваляць беларусаў, наўрад ці давялося-б нам сягоньня сядзець.

—Так, не давялося-б. Што там ні брэшуць некаторыя знаёмыя, не кажучы пра прапаганду падпольшчыкаў,якія абзываюць нас здраднікамі, калябарантамі, але ні адзін чалавек, які не страціў розум, сам сабе ня можа здраджваць, а здраджваць такім паразітам, як Сталін, я лічу найвышай нагародай. Калябараваць-жа можна па-рознаму: здраджваць свайму народу і старацца «выкруціць цяля ў круцяля». Мы належым да гэтай другой катэгорыі калябарантаў. А калябаранты з Масквой —здраднікі свайго народу, яго магільшчыкі.

—Так, слушна разважаеш, Язэп. Але мы загаварыліся. Я вось што хацеў табе сказаць. Як толькі мая Людміла паправіцца, мы думаем паехаць у Нямеччыну на экскурсыю . Мяне будзе замяняць Іосіф Беразоўскі.

—А чаму не Язэп?

—Ну, гэтак ён пішаца. Русафіл, такі, як Анупрэйчык. Ня любціь беларусаў хоць у самога беларуская кроў цячэ. Бачыш, беларусы разрабавалі бацькаў маёнтак. Знайшоў такую-ж як і сам «былую баранэсу» із Эстоніі Энософ Вандку і падсунуў у наш аддзел сачыць за мною. Чуў я, што хутка будзе арганізоўвацца Беларуская Цэнтральная Рада, беларускае войска і Саюз Беларускай Моладзі.

—Позна хапіліся, мне здаецца.

—Ну, лепей пазьней, як ніколі. Дык вось што я хацеў яшчэ сказаць. Будучы, як выгляде, прэзыдэнт БЦР, Радаслаў Астроўскі, зьбіраецца ехаць у Слуцак. Так што, маеш нагоду пабываць у бацькоў. Я табе скажу, калі ён будзе ехаць.

(Працяг будзе)






Сьвятлана Белая

## Перапісчык

Вясна 1912 году была ў поўным разгары. Падыйшоў, нарэшце, і жаданы дзень роспуску на летнія вакацыі. Наперадзе было некалькі экзаменаў і ўсё—пачыналася шчасьлівейшая пара студэнцкага жыцьця. З гэтым радасным настроем ліцэіст 1 курса Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэю Максім Багдановіч вяртаўся да хаты. Добрае надвор'е, цёплы вецер, што час ад часу падымаў у блакіт травеньскага неба лёгкія празрыстыя аблокі зь ябланевых пялёсткаў,—спрыялі радаснаму творчаму настрою. І ад навакольнай прыгажосьці, ад пачуцьця завяршэньня першага, такога складанага году вучобы ў нелюбімым ліцэі, ўсё сьпявала ўнутры.

Максім ішоў уздоўж набераЖнай. Над Волгай плыў прыгожы перазвон званоў Спаскага манастыра. Званы склікалі манахаў і яраслаўцаў у Спаскі сабор.

—Якое-ж сьвята сёньня?—падумаў Максім, параўнаўшыся зь Сьвятой брамай манастыра. І раптам, як маланка, пранеслася думка: калі сёньня сьвята, то можа і прыехаўшы архімандрыт дазволіць яму паглядзець музэй Спаскага манастыра?

Пазнаёміцца з багацьцем скарбаў гэтага аднаго з найбагацейшых і таямнічых музэяў Яраславіі было складана, але вельмі прынадна. Спаскі манастыр быў заснаваны ў Яўраслаўлі ў канцы XII ст. У 1216-1218 г. на яго тэрыторыі былі пабудаваны першыя каменныя храмы. У тыя-ж годы, тут была закладзена бібліятэка, якая ўжо на пачатку свайго існаваньня налічвала тысячы кніг. Пажары і войны неаднойчы зьнічтажалі бібліятэку, але Спаскі манастыр папаўняўся новымі выданьнямі. Так як патронам манастыра быў Іван Грозны, які неаднойчы ўкрываўся за яго сьценамі ад ворагаў, то можна толькі здагадвацца, якія шчодрыя дары атрымоўваў манастыр.

Музэй манастыра разьмяшчаўся ў рызьніцы. І толькі архімандрыт даваў дазвол на яго наведаваньне.Праўда, часамі добры вартаўнік-манах, дазваляў на некалькі хвілінаў зайсьці ў рызьніцу і паглядзець, якія незвычайныя скарбы мае музэй, але гэта здаралася вельмі рэдка.

Першы раз Максім наведаў рызьніцу манастыра, будучы гімназістам. Экскурсыю для сваіх гадаванцаў арганізаваў настаўнік гісторыі Парфіры Мізінаў. Максіма тады вельмі ўразіла калекцыя старажытных рукапісных кнігаў. Па-сутнасьці, гэта было ягонае першае знаёмства з рукапісамі. Пасьля, у час свайго наведваньня Вільні, ён бачыў старадрукі і рукапісы ў Беларускім музэі імя Івана Луцкевіча. Пэўна, што за некалькі гадзінаў, якія Максім правёў у музэі, ён мог толькі бегла азнаёміцца з

*Працяг. Пачатак у № 3-10*

багацьцем беларускага народу. Але яму вельмі хацелася яшчэ раз праглядзець старажытныя пажаўцелыя старонкі пергаменту, учытацца ў скупыя радкі, поўныя глыбокага зьместу, у якія ўкладалі ўсю сваю душу манахі-перапісчыкі і летапісцы.

Каля Сьвятой брамы,якая адгароджвала манастыр ад вонкавага сьвету, Максім прыпыніўся. Нейкае незразумелае хваляваньне ахапіла яго. Ён пастаяў крыху, а пасьля рашуча адчыніў дзверы брамы. Вартаўніка не было, і Максім без ніякіх перашкодаў увайшоў на тэрыторыю манастыра. Зьдзівіла яго незвычайная цішыня і бязлюднасьць. Нікога не ўбачыў ён ля манастырскіх кельляў і Спаскага сабору. Цішыня была і каля рызьніцы. Дзьверы ў яе таксама былі адчыненыя. Максім увайшоў у будынак рызьніцы, прайшоў некалькі крокаў цёмным карыдорам...

— Малады чалавек, жадаеце азнаёміцца з музэям манастыра?

Голас належыў старэнькаму сівому манаху,які зьявіўся так нечакана і бясшумна, што зьбянтэжаны хлапец нават разгубіўся.

—Так, вельмі хачу,—нарэшце, прамовіў Максім. І з надзеяй запытаўся.— Калі мажліва, то я хацеў-бы пабачыць рукапісны аддзел.

—Рукапісы—гэта добра,—сказаў манах. — Сёньня мы якраз маем новыя паступленьні.Архімандрыт прывёз.

Максім увайшоў у невялікую залю. Тут пахла прыемным пахам ладану і воску. Рукапісы стаялі ў шкляных шкафах. Старычок адчыняў шкафы і даставаў зь іх кнігі. Дастаўшы некалькі, ён сказаў.

—Можаце пакуль праглядаць гэтыя, а я пасьля прынясу Вам новыя рукапісы.

Максім застаўся адзін. Кнігі былі пакрытыя бурай скурай, зь медзянымі і сярэбранымі філігранямі. Пісаліся яны, відаць, гадамі, бо можна было прасачыць, як з часам мяняўся почырк перапісчыка. Некаторыя рукапісы перапісваліся, відаць, зусім старымі людзьмі, бо літаркі тэксту ледзь прыкметна дрыжалі. Але якія прыгожыя былі застаўкі, у выглядзе незвычайных кветак, зьвяроў, птушак! Немажліва было адарваць вока ад гэтага сацьвецьця завіткоў і ўпрыгожваньняў. Максім уважліва ўчытваўся ў радкі летапісаў, некаторыя зь якіх ён занатоўваў на чыстым аркушы паперы. Так у чытаньні і роздуме прайшло некалькі гадзінаў. Працу прыпыніў сівенькі вартаўнік музэю, які прынёс невялікі фаліянт.

—Гэтую кнігу архімандрыт Маскоўскі сёньня падарыў нашаму манастыру. Вы толькі паглядзіце, што гэта за рукапіс. Ніколі я яшчэ не бачыў такога.

Максім паглядзеў і падзівіўся. Не, зьмест рукапіса быў звычайны, бо *«адны і тыя-ж рукапісы знаходзіліся як у Кіеве, так і ў Полацку, і ў Уладзіміры, вытвараныя, напрыклад, у XI—XII сталецьці, чыталіся і перапісываліся нават цераз колькі сто гадоў.»* Нешта незвычайнае пабачылася яму ў роўным, быццам-бы друкаваным тэксьце кнігі. Не было характэрных завітушак, малюнкаў кветак і зьвяроў, але была такая незвычайная лёгкасьць, такая ажурнасьць! Літаркі былі напісаны так роўна, што проста ня верылася, што кніга пісана чалавекам, а не друкавана на станку. Глянуў на год стварэньня кнігі і падзівіўся 1022 рок. Месца—Полацак.

Дрыжыкі прабеліся па целу. У гэты-ж час вялікая Еўфрасіньня Полацкая папрасіла япіскапа Полацкага Ілью, што кіраваў прастолам сьвятой Сафіі ў Полацку, дазволіць ёй жыць у царкве сьвятой Сафіі ў кельлі каменнай. І той дазволў ёй жыць там. *«І яна ўвайшла туды, і ўспрыняла найпадзьвіжнейшы подзьвіг посту, і пачала пі-*

*саць кнігі сваімі рукамі,і прыбытак (ад продажу іх) аддавала тым, хто папросіць».* І пайшлі па сьвету кнігі Еўфрасіньні Полацкай. І неслі гэтыя кнігі ня толькі асьвету і праўду жыцьця, але цяпло сьветлай душы полацкай манашкі. Ад яе, Еўфрасіньні пайшла добрая традыцыя асьветніцтва, разьвіцьця пісьменнасьці беларусаў. *«І разьвіцьцё беларускай пісьменнасьці ішло чым далей, тым усё больш бардзеючым крокам і павялічывалася не ў арыфметычнай, а ў геаметрычнай прагрэсыі; так камень, ідучы да дна соннага става, робіць на яго люстранай гладзі спачатку ледзьве відны, але што раз болей пашыраючыся круг; такім-жа парадкам узрастала і нашая пісьменнасьць.»*

Можа калісьці і да гэтай кнігі, якую Максім трымаў у руках,датыкаліся рукі Еўфрасіньні.

Зноў зазванілі званы, якія клікалі на вячэрнюю службу.

—Малады чалавек,—зьвярнуўся вартаўнік.—Пара зачыняць рызьніцу й ісьці на вячэрнюю ў Спаскі сабор.

—Якое сьвята сёньня? — спытаў Максім, прыслухоўваючыся да велічнага сьпеву званоў.

—Дзень сьвятой Еўфрасіньні,княгіні Полацкай. Гэта адна зь першых праваслаўных сьвятых, і сёньня вельмі вялікае сьвята.

І тут Максім усё зразумеў: і чаму менавіта сёньня яму захацелася прыйсьці ў Спаскі манастыр. І чаму сёньня яму пашчасьціла пабачыць старажытныя рукапісы. І чаму сёньня ён убачыў рукапіс з Полацку, Яе, зараз Максім не сумніваўся, Еўфрасіньнеўскі рукапіс.І ў сьпеве званоў чуўся яму голас самой Еўфрасіньні. Ёй некалі маліліся ягоныя продкі, просячы выратаваць іх ад няшчасьцяў. Ёй малілася і ягоная маці:

Калі я малюся шторанак, Табе,
прэпадобная Еўфрасіньня,
І прашу вярнуць памяць майму народу,
Ты сумна глядзіш на мяне
І нічога ў адказ не гаворыш.

Калі я стаю прад Табою апоўдзень
З надзеяй, што ты знойдзеш
краіне маёй ратаваньне
Ты быццам ня бачыш мяне срозь сьлёзы,
І я бязгучна сама пачынаю плакаць

Калі я прыхожу пасьля зараніцы
І зьвяртаюся зноў да Цябе,
прэпадобная Еўфрасіньня,
Даць маёй Беларусі
Веру, надзею, тваю апеку
Ты зноў маўчыш, але у тваім маўчаньні,
я чую адказ.

Таму шторанак, штопоўдзень, штовечар
Я іду да цябе ізноў,
І прашу за мой народ
і яго загубленыя сьвятыні,
З надзеяй, што Ты,
прэпадобнейшая Еўфрасіньня,
Выканаеш маю адзіную просьбу.

Разам з вартаўнікам Максім выйшаў з рызьніцы і накіраваўся да Спаскага сабору. Служба, у гонар Еўфрасіньні Полацкай, пачалася ўрачыста і велічна. Максім стаяў у царкве і ціха дзякаваў Еўфрасіньні за тую ласку, якую яна аказала яму сёньня. І стоячы ў царкве, зьвяртаючыся ў малітве да яе, заступніцы беларускага народу, нараджаліся аднекуль забытыя радкі, навеянныя ўражаньнем сустрэчы зь сьв. Еўфрасіньняй Полацкай.

На чыстым аркушы, прад вузенькім акном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром.
Устаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку: усякімі цьвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі зьвяроў
І птах нявіданых, спляценьнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь—даволі ёсьць знароўкі—
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі
І загалоўкі ўсе, —няма куды сьпяшыць!

# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

## Мае ўспаміны

Анеля Катковіч

У часе знаходжаньня ў лягеры я зблізілася з жонкай Бухарына. Яна вельмі добра ведала ангельскую мову, якую я пачала вывучаць, будучы ў Нямеччыне. Гуляючы ў лагеры з гэтай жанчынай, мы гутарылі па-ангельску, але толькі тады, як нас ніхто ня чуў. Калі нехта да нас прыбліжаўся, мы адразу спынялі гутарку. Вучыцца ў лягеры ў тым часе чужой мовы было забаронена. Вельмі ахвотна займалася са мною ангельскай мовай праўдзівая ангелька, таксама з вышэйшай асьветай (прозьвішча яе ня помню). Але, на маё няшчасьце, як толькі пачынала я вучыцца, адразу мяне мучыў галаўны боль і мусіла перапыняць лекцыі. А мне так не хацелася губляць дарма часу ў лягеры. Брала кнігі ў бібліятэцы, але чытаць было мне цяжка. Праходзячы 24 км дзённа, я вельмі стамлялася. Яда ў гэтым лягеры была яшчэ горшая, чым у папярэдніх, а праз нейкі час пачалі мы галадаць, бо не давозілі прадуктаў. Не хапала хлеба і бульбы. Тры разы на дзень давалі нейкую мутную поліўку і кавалачак хлеба, поўнага калючых осьцяў. Кладучыся спаць я ўсьміхалася да сябе, думаючы, што пасьля ночы дастану ізноў поліўку і кавалачак калючага хлеба. Толькі ноч пераспаць, думала я, як ізноў буду есьці.

У гэтым лягеры перажыла я такі выпадак. Аднойчы, прышоўшы з працы, кінулася змучаная на нары, каб адпачыць, але ня доўга ляжала. Нейкая сіла падхапіла мяне з нар і накіравала ў санчасьць, у якой ніхто мяне ня ведаў, бо, як я вышэй узгадвала, дала сабе слова, не хадзіць туды больш. У пакоі сядзела некалькі чалавек, а між імі нейкі вайсковы афіцэр. Падыйшла я да яго і кажу: «Гражданин доктор, я не больная, но я очень устала и прошу дать мне один день отдыха».

Доктар сказаў мне распрануцца, выслухаў і сказаў: «Вы просите один день отдыха, а я даю вам яго на две недели». Падумала я, што ён з мяне жартуе. Калі я была сапраўды хворая, то мне не давалі ані воднага дня на адпачынак, а тут далі цэлых два тыдні. Гляджу я на яго і вушам ня веру, не кранаюся з месца. А ён зноў паўтарае мне: «Одевайтесь и завтра на работу не выходите».

Вярнулася я ў барак і расказала пра ўсё гэта пані Ірэне Гузар. Кажу ёй: «Я сама ня ведаю, што мне рабіць: выходзіць заўтра на працу ці не». Ірэна Гузар растлумачыла мне: «Сёньня ўсіх слабейшых клікалі ў санчасьць і давалі 2 тыдні адпачынку, так што і вам далі. На працу заўтра можаце не выходзіць». Гэта было, як сапраўдная казка. Прыйшла вясна, стаяла прыгожае надвор'е, й я адпачывала. Сядзела перад баракам на сонцы і нічога не рабіла. У тым часе атрыма-

Заканчэньне. Пачатак у № 2(32)-3(33)

ла першую пасылку ад цёці Гэлькі, у якой была цёплая хустка, лыжка, сала і сухарыкі. Адпачынак і пачка мяне падтрымалі. Пасьля двух тыдняў мой адпачынак пабольшылі яшчэ на столькі-ж часу.

У гэтым лягеры пазнаёмілася я з Анеляй Дэвульскай, дачкой прафэсара Віленскага ўнівэрсытэту, вельмі прыгожай і добрай жанчынай, якая вельмі цярпліва зносіла ўсе цяжкасьці лагернага жыцьця. Пазнала таксама я Галіну Кобяк з Баранавіч, якая як і я хварэла гіпэртаніяй. Галіна не дачакалася волі і памерла ў лягеры. Запрыязьнілася і з савецкай беларускай-географам Марыяй Івановай, асуджанай на 25 год лягера, якая не расставалася з партрэтам Сталіна.

Пасьля адпачынку зноў пачалася цяжкая праца. Вясна хутка мінула, і настала гарачае лета.

Лета на Сібіры страшнае, бо з прыходам яго зьяўляюцца камары і мошка, ад якіх паветра здаецца густым і чорным. Выходзячы з бараку трэба надзяваць на галаву накамарнік, але ўсё роўна, мошка праз малыя дзюрачкі пералізала і кусала, вельмі балюча. Укушанае месца пачынала пячы, чырванець і пухнуць. Мы хадзілі ўвесь час з апухлымі тварамі, рукамі, нагамі. А сьпека стаяла невыносная. Увесь час хацелася піць, але вады не было. Усе мы былі ў доўгіх штанах, кашулях з доўгімі рукавамі і ў вялізарных камашах на гумовай падошве, якія спадалі з ног. Нам заўсёды прывозілі боты, прызначаныя для мужчн, а для мужчын прывозілі жаночыя нумары. Яны таксама мучыліся ў цесным абутку, як і мы ў вялікім. Каб адганяць машкару, мы плялі з галінак дрэваў вянкі і апраналі іх на галаву.

Былі ў нашым лягеры манашкі, якія адмаўляліся працаваць, гаварылі: «Ня будзем працаваць на сатану». Саджалі іх у карцар, мучылі, але нічога не дапамагала. Вартаўнікі былі людзі спэцыяльна вышкаленыя— садысты, якім дастаўляла прыемнасьць зьдзекавацца над безабароннымі. Помню, як вывелі з карцару з кайданамі на руках манашку і далучылі да нашай брыгады. Жанчына была ўжо старая. Пайшла з намі ў лес, а працаваць не хацела. Вартаўнік пачаў над ёй зьдзекавацца. У лесе было шмат машкары і камароў, і ён загадаў зьняць кашулю, накамарнік, узяць у рукі калодку і хадзіць па палянцы па кругу. Адразу на яе голыя плечы насела машкара і так пакусала, што аж кроў ішла, а яна не магла яе адаганаць, бо рукі былі знятыя. Хадзіла і паўтарала: *«Господи, прости ему»*. Нарэшце, упала. Тады вартаўнік паклікаў мяне да сябе і прыказаў падняць яе на ногі. Папярэдзіў: «Калі ты гэтага ня зробіш, сама будзеш хадзіць, як яна распранутая». Чаму ён мяне выбраў, ня ведаю, відаць, не падабалася я яму, бо была адна з найслабейшых. Пачала я прасіць бабку, каб мяне пашкадавала і даўжэй не ўпіралася. Нічога не памагло. Тады вартаўнік загадаў усім разыйсьціся на стораны, паставіў манашку пад дрэва і накіраваў на яе зборю. Выстраліў, але ў бок, манашка засталася жывая, але працаваць яна не пачала.

Часта вартаўнікі, ідучы з намі дарогай, калі мы нясьлі на плячах калодкі, загадвалі нам затрымацца, зьняць накамарнікі, трымаць у руках коладкі. Яны ў гэты час назіралі, як нас абсядала машкара, як яна кусала нас да крыві. Да таго-ж было вельмі горача, пякло сонца і страшэнна хацелася піць, а ў мяне балела галава.

Аднойчы мы пайшлі у лес па дровы, ужо напілаваныя. Трэба было ўзяць па калодцы і нясьці назад у лягер. Калі мы прыйшлі на месца, мацьнейшыя жанчыны кінуліся да кучы дроў і выбіралі сабе калодкі лягчэй-

шыя. Я дабралася да кучы апошняй, для мяне засталася самая цяжкая калодка. Па дарозе я стала адставаць. Заўважыўшы гэта, вартаўнік пачаў мяне падганяць. Біў ён мяне па галаве, пагражаў, што застрэліць, але нічога не памагала. Усьцяж я была ззаду. Калі, нарэшце, дайшлі мы да лягера, усе скінулі свае калодкі з плячэй, вартаўнік загадаў мне прайсьціся некалькі кругоў з калодкай па двары. Я, ходзячы, страціла прытомнасьць і ўпала.

Аднойчы загадалі нам ісьці па муку на станцыю, адлеглую ад лягера 7 км. Вялізарныя мяхі з мукой трэба было перавесіць на палку і ўзяць на плечы двум асобам. Я ніяк не магла крануць мяшка з месца. Ізноў вартаўнік біў мяне па галаве і штурхаў, крычаў з усёй сілы ды нічога не дапамагала. Я не магла скрануць мяшка. Чулася я вельмі кепска—мела свой час. Калі прыйшлі ў лягер, вартаўнік заявіў начальству, што я адмаўлялася ад працы. Загадалі пасадзіць мяне ў карцар. Вартаўнік, што вёў мяне, аказаўся людзкім. Калі ён адмыкаў дзьверы, я сказала: «Я такая хворая, мне так страшна баліць галава і маю свой час сёньня». Пачуйчы гэта, ён пайшоў са мною ў санчасьць, праверыць, ці праўду я гавару. Там праверылі і адпусьцілі мяне.

З гэтага легера, пасьля некалькі месячнага «адпачынку» паслалі мяне ізноў на лесапавал, але там я была нядоўга, бо трапіла я ў лягер, дзе шчыпалі слюду. Работа гэта была лягчэйшая, але вельмі нездаровая, бо трэба было цэлы дзень і цэлую ноч дыхаць пылам.Працавалі на дзьве зьмены Адзін тыдзень ноччу, другі—удзень. Сьвятаў мы ня ведалі. Спалі мала, бо пасьля начной працы заўсёды знаходзілі нейкую іншую для нас працу. Трэба было разгружаць вагоны, мыць падлогі ў гарнізоне, то пілаваць дровы, адкідаць сьнег.

У нядзелю палілі лазню для гарнізона і заўсёды пасылалі туды некалькі чалавек. Брыгадзір пачынала назначаць працаўнікоў да гэтай працы ад мяне, бо я ня мела пасылак, і не дзялілася зь ёй імі, ня ўмела, як іншыя бараніцца. Для лазні трэба было напілаваць дроваў, выцягнуць са студні абмерзлым вядром вады ды напоўніць 3 вялізарныя кладзі. Студня была такая абледзянелая і пры самай зямлі, што было страшна стаяць над ёй. Можна было лёгка пасьлізгнуцца і ўляцець у ваду. Шост быў таксама аблядзянелы і слізкі. Выцягнутае вядро паднімалася ўверх, а там стаяла жанчына й улівала ў карыта ваду. Рукавіцы былі замерзлыя, рукі халодныя, бушлат і валенкі абледзянелыя,з носа лілося,расьніцы склеяліся. Працавалі так ад раніцы да позняй ночы. Такая праца ў мяне была кожную нядзелю, хаця часамі наша брыгада адпачывала. Мой галаўны боль усіліваўся. У лягеры толькі і гаварылі, што пра сьмерць. Людзей памірала вельмі многа. Адна жанчына пачала адкідаць снег і ўпала мёртвая, другая нахілілася мыць падлогу і паваліся замертва. Трэцяя несла дровы і не данесла да бараку. Чацьвёртая, вязучы ваду ў бочцы, падпёрла сабой бочку і ўпала... Памерла і мая прыяцелька Галіна Кобяк, якая ўжо канчала тэрмін і зьбіралася да дзяцей ў Баранавічы. Яе смерць была для мяне вялікім ударам. Мне вельмі шкада было таксама прыгожай летувіскі, якая канчала свой 5-ці гадовы тэрмін. Праз увесь час ня мела яна сувязі з бацькамі і толькі пад канец тэрміну знайшла іх. Яна так аслабела ў часе працы на слюдзе, што, калі яе, нарэшце, прывялі ў санчасьць, то яна там адразу памерла.

Помню, пачалі ў нас хварэць на грып. Кожную хворую разам з ложкам забіралі з бараку. І так,калі я захварэла сказалі ўзяць

свой сянык і выйсьці з бараку. Прывялі мяне ў гігіенічны пакой, у якім адна пры адной, на падлозе, як селядцы ў бочцы, ляжалі хворыя. Ня было там месца, дзе ступіць, а на мяне крычалі: «Лажыся». Нарэшце, палажылі мяне на стале. Зьбілі парашкамі крыху тэмпературу й адразу выпісалі.

У часе начной працы на слюдзе нам дазвалялі спяваць. Спявалі пераважна ўкраінкі. Некаторыя мелі вельмі прыгожыя галасы. Украінак было многа, 50% сярод асуджаных. Шчыпалі жанчыны слюду і сьпявалі на чатыры галасы.Спявалі розныя песьні: старыя і новыя, створаныя вязьнямі,у якіх расказывалі аб сваёй цяжкай долі ці выказваі тугу за бацькамі, ніхто з нас не спадзяваўся пабачыцца з роднымі. Хаця між намі і хадзілі розныя пагалоскі аб амністыі, аб нейкіх зьменах у Савецкім Саюзе. Толькі зьмена магла прынясьці нам волю. Інакш нічога добрага нельга было чакаць. Блатныя часта мелі амністыю. Для іх былі іншыя законы, чым для палітычных. Пагалоскі крыху падтрымлівалі нас на духу.

У лягеры можна было спаткаць вельмі цікавых людзей. Але нас бесперапынна перакідвалі з месца на месца, з аднаго лягера ў другі. Бывала, вернешся з працы, а тут кажуць браць свае рэчы і пераходзіць у іншы барак. У кожным бараку былі мейсцы лепшыя і горшыя. Напрыклад, каля парашы ніхто не хацеў спаць. Жанчыны, пачуўшы, што перасяляюць у іншы барак, хапалі свае рэчы і беглі як найхутчэй, каб заняць лепшае мейсца. Зразумела, мацьнейшыя былі першымі. Калі і ўдавалася часам слабейшай дабегчы раней і заняць сабе лепшае мейсца, то ўсё роўна, яна на ім не затрымоўвалася. Прыбягала блатная і выганяла яе.

Усе ў лягеры працавалі цяжка. Лёгкая праца была ў бібліятэцы, капцёрцы, санчасьці, гігіенічным пакоі, пажарнай, а таксама у брыгадзіраў. Тых, хто працаваў на лёгкіх працах, называлі ў лягеры прыдуркамі. Яны пачувалі сябе лепшымі, хадзілі лепш апранутымі, лепш чым мы елі і лепш выглядалі. Былі імі пераважна тыя,хто займаўся даносамі або мелі добрыя пасылкі і маглі, як кажуць, падамазаць, дзе трэба.

Спатыкаліся ўлягеры закаханыя ў сабе жанчыны. Адна зь іх была падобная на мужчыну, мела падстрыжаныя, як мужчына валасы, хадзіла толькі ў штанах, курыла. Другая была больш далікатная, жаноцкая. Жанчын-мужчын было менш ў лягеры, і яны мелі вялікую павагу. Часта здраджвалі сваім партнеркам. Пакінутыя вельмі перажывалі, а адна вельмі прыгожая і, як здавалася інтэлігентная латышка, нават звар'яцела.

Працуючы на слюдзе, мая гіпэртанія штораз разьвівалася, а галаўны боль ўзмацьняўся. А мяне ўсё кармілі парашкамі і не зьвальнялі з працы. Парашкі ад галаўной болі я прымала некалькі разоў на дзень, Часамі не магла ступіць кроку, так балела галава. Не магла я павярнуць галавы, і калі хто-небудзь да мяне гаварыў, я варочалася да яго цэлым тулавам. Пасылак я не атрымлівала, таму што напісала да цёці Гэлькі,каб мне нічога не прысылала, бо мне ўсяго хапае. А сама была такая галодная, што калі аднойчы нас павязьлі ў гарнізон мыць падлогу і я ўбачыла ў брудным вядры лісткі капусты, то падыйшла да гэтага вядра і стала есьць лісткі.

Аднаго дня прыехалі вязьні з Казахстану, зь лягеру, дзе была Вера. Між іншым былі там Верыны сяброўкі. Вось яны, пабачыўшы,у якім я знаходжуся стане, напісалі лісты да Веры і Франка. Вера тады працавала ў пашывачнай і прыходзілася ёй лепш чым мне. Адразу прыйшла ад яе пасылка, а ад Франка

грошы. Магла я купіць сабе мёду, і ён мяне падтрымаў.

Раней, чым прыехалі да нас Верыны сяброўкі, даведалася я ад цёці Гэлькі, што памёр Славік. Прадчувала я гэта па сваіх снах. Усьцяж бачыла Веру адну і такую сумную.. Калі я яе пытала, дзе Славік, яна не магла выгаварыць слова—памёр. Паўтарала толькі: Славік, Славік. І я здагадалася, што зь ім сталася. Атрымаўшы ліст з такой весткай у часе перапынку, я пачала варя'цець. Ды крыві падзёрла сабе твар і рукі. Нагаварыла Бог ведае што надзірацелям, разыйшлася да такой ступені, што мяне хацелі пасадзіць у карцар. Пашчасьціла толькі, што быў добры начальнік, і калі я расказала яму, чаму так рабіла, паказала ліст, ён адпусьціў мяне. З таго часу начальнік адносіўся да мяне зь вялікай сымпатыяй. Калі толькі прыходзіў у барак, заўсёды пытаўся, ці перастала я ўжо плакаць.

У часе працы на слюдзе нам часта чыталі газэту. Вось аднойчы прачыталі, як камасамольцы дабравольцы,паехалі ў Сібір на Ангару і пабудавалі электрастанцыю над гэтай ракой. Пачуўшы гэта, у цаху паўстаў вялікі шум і крык: «Якія камсамольцы, там будавалі? Гэта-ж мы там былі, мы працавалі і мучыліся. Сколькі там загінула вязьняў»,— крычалі жанчыны.

Аднойчы ў мяне так разбалелася галава, што я зусім не магла працаваць. Выйшла і села перад цэхам. За мной выбегла з крыкам брыгадзір, крычала, чаму не працую, а я і гаварыць не магла. Дабралася да санчасьці, дзе далі мне парашок. За гадзіну ці дзьве ізноў пайшла ў санчасьць па парашок. Якраз была там вольная доктар. Калі медсястра закрычала, што мне толькі што далі парашок, я сказала, што ён мне не дапамог, і я не магу вытрымаць боль. Чуючы гэта, доктар запыталася мяне ці мерылі мне калі-небудзь ціск крыві. На мой адмоўны адказ узяла апарат і змерыла мне ціск. Задрыжаклі яе рукі, не магла знайсьці яна карты маёй хваробы, а калі знайшла сказала ісьці ў барак, легчы і не выходзіць заўтра на працу. Дазнаўшыся, што я сплю на верхніх нарах, прыказала паклікаць брыгадзіра. Загадала ёй палажыць мяне на ніжніх нарах. Брыгадзір сказала,што на ніжніх нарах сьпяць толькі хворыя і інваліды. На гэта доктар адказала: «Знаю вашу брыгаду, у вас толькі адна цяжка хворая — гэта Катковіч».

Ноччу мне здавалася, што на мяне нехта наваліўся і душыць. Хутка пасьля гэтага дня мяне адаслалі ў шпіталь, дзе я прабыла два месяцы і вярнулася у лягер з IУ катэгорыяй інваліднасьці. Так з І катэгорыі я пераскочыла адразу на IУ, каторую мусела мець пасьля прыезду ў лягер. А я тры гады так цяжка працавала, будучы інвалідам.

Які быў у мне тады ціск крыві, калі першы раз мерыў доктар, я не ведаю, бо мне не сказалі. Раз толькі падгледзіла, як запісывалі 250/140.

Яшчэ калі я мела першую катэгорыю і працавала на слюдзе, то кожную восень нас вазілі выбіраць бульбу. Калі я ехала туды першы раз, нам сказалі ўзяць з сабою пустыя сеньнікі. Прыехаўшы на месца, загадалі іх здаць, каб набіць саломай. Калі іх набілі, усе жанчыны кінуліся да сеньнікоў, і хапалі, які папала. А я, наіўная, думала, што кожны бярэ свой, і бегала ад аднаго да другога, шукаючы свайго. Пакуль я так шукала ўсе расхапілі сеньнікі, і я засталася без ніякага. Панясьлі ўсе свае сеньнікі ў будынак. Занялі ўсю падлогу. Калі я прыйшла, то ня было для мяне мейсца нават стаячага. Завяла тады мяне брыгадзір у пражарку, дзе вешалі мокрыя бушлаты і валенкі. Была яна ўся завешаная. Ад пары было душна і тошна. Працуючы цэлы дзень

на полі, ноч праводзіла я на голай зямлі ў душнай пражарцы. Выбіралі бульбу заўсёды позьняй восеньню, калі сьнег пачынаў падаць. Працавалі ад цямна да цямна. Вярнуўшыся, ня мелі, чым вымыць рукі, мылі іх снегам. Выбіралі бульбу рукамі. Давалі кожнаму баразну і ня можна было адстаць ад іншых. Брыгадзір ішла ззаду і правярала, ці чыста мы выбіраем. Былі мы такія галодныя, што на полі елі сырую бульбу.

Будучы ў шпіталі, мы таксама працавалі. Хадзілі ноччу абіраць бульбу на кухню. Там я аднойчы зьела кавалак рыбы і атруцілася. Ледзь мяне выратавалі.

Пасьля шпіталя пачала працаваць у хлебарэзцы. Там мела дастаткова хлеба і цукру. Але там працавала толькі сем месяцаў. Пасьля ізноў трапіла на слюду.

У гэтым часе пазнаёмілася з пані Гражынай Ліпніскай, Марыяй Гэрман, украінкай Мысак. З паняй Гражынай пры адным стале сядзела на слюдзе. Гэта была вельмі цікавая полька, інжынер па прафэсіі. Цяпер яна у Варшаве. Пані Гэрман паходзіла з Вільні. Вельмі кепска чула, але мела фенаменальную памяць. Умела вельмі прыгожа расказываць кнігі, якія калісьці прачытала .Ведала шмат беларускіх вершаў.Спалі мы на адных нарах. Яна памерла ў Хыліцах.

Пасьля сьмерці Сталіна, усе пачалі пісаць скаргі. У лягеры ўмовы палепшыліся. Пачалі плаціць нам грошы, палепшылася харчаваньне. А хлеба мела аж замнога. Арганізаваліся розныя кружкі: шыцьця і крою, замежных моваў, вязаньня і т.д. У крамах можна было нешта купіць з харчоў.

Пачалі зьвальняць з лягера, першымі выпусьцілі ўсіх немцаў. Пасьля па чарзе сталі выклікаць нас і адпускаць да хаты. Дачакалася і я вызваленьня. Месяцам раней атрымала тэлеграму ад Веры, што яна едзе дамоў. Мне аб'явілі свабоду на другі дзень Каляд 1955 г. Звольнілі «со снятием судимости и поражения в правах». Новы 1956 год спатыкала я ў цягніку ў выгодным вагоне з месцам для спаньня, бо мела я ўжо грошы і магла сабе такое месца купіць. Не вярнулася-б я дамоў, каб ня цётка Гэлька. Яна прыслала спраўку з сельсавету, што бярэ мяне на сваё ўтрыманьне. Сколькі было людзей, якія пасьля звальненьня ня мелі куды ехаць. Былі старушкі, якія мелі на волі дзяцей, а тыя іх прыняць не хацелі. Яны мусілі да канца жыцьця застацца ў Сібіры. Трэба было бачыць іх роспач. Выракаліся іх родныя дзеці, за якімі яны так доўга тужылі.

Прыехала я ў Будслаў ноччу. Не хацела чакаць на станцыі да раніцы, дык пакінула ў нейкай хаце свой вузельчык і накіравалася ў мястэчка. Цёмна было, збілася з дарогі, пайшла полем па пояс у сьнягу. У канцы канцоў дабралася да мястэчка. Праходзячы міма касьцёла, затрымалася пры ім, увайшла на высокі ганак і укленчыла на ім сярод цёмнай ночы. Падзякаваўшы Богу за шчасьлівы паварот у роднае мястэчка, пайшла да цёткі. Пастукала ў вакно, выбегла цёця зь дзядзькам.Убачыўшы мяне ў лахманах, старым палатаным бушлаце і вялізарных валенках, расплакаліся. Веры дома не было, яна гасьціла ў сьвякрухі ў Крывічах. Лягла я спаць у ложак з падушкай і пярынай. Верыць не хацелася, што так зручна спяць людзі. А я цэлых шэсьць гадоў пад галаву клала брудны бушлат. Праз два дні прыехала Вера і пачаліся бясконцыя аповяды.

У Будславе спаткаліся мы з Франкам і Пётрусем. Пражылі тут зь Верай ад студзеня да кастрычніка.Пасьля абедзьве парадзіліся з дзядзькамі ды паехалі ў Польшчу. Веру выклікаў муж, а мяне стрыечны брат. Так, нарэшце, закончыліся мае блуканьні ў пакутах.




# Храналёгія культурна-асьветніцкага жыцьця клюбу «Спадчына»

7 мая 1986 г.—сустрэча з народным пісьменьнікам Беларусі Іванам Шамякіным.

20 мая — сустрэча з доктарам геалягічных навук Эрнстам Ляўковым, стваральнікам музэя камянёў.

11 чэрвеня — сустрэча з паэтам Нілам Гілевічам.

12 чэрвеня — у Палацы культуры Белсаўпрофа мусіў адбыцца вернісаж выстаўкі «500 гадоў Франьцішку Скарыны», арганізаванай старшынёй клюбу «Спадчына». Экспазыцыя выстаўкі ўключала звыш 130 твораў жывапісу, графікі, экслібрыса, скульптуры, мэдальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Для выстаўкі былі зроблены спэцыяльныя афішы, распаўсюджаны запрашальныя білеты, выдрукаваны каталёгі.

Але ў самую апошнюю хвіліну Менскі гаркам КПБ забарніў правядзеньне выстаўкі. Пісьменьнікі Іван Шамякін, Ніл Гілевіч, Сяргей Законьнікаў рабілі вялікія намаганьні перад сакратаром ЦК КПБ па ідэялёгіі Аляксандрам Кузьміным, каб адмяніць рашэньне Менскага ГК КПБ і даць дазвол на правядзеньне гэтай выставы. Але Кузьмін аказаўся бяссільны, бо супроць дазволу выстаўкі стаялі больш уплывовыя сілы.

На цэнтральнай плошчы каля Палаца Белсаўпрофа на прызначаны час адкрыцьця выстаўкі сабралося шмат людзей. Баючыся непажаданых выступленьняў, быў выстаўлены значны нарад міліцыі. За некалькі хві-

*Працяг. Пачатак у №4(34)*

лінаў да афіцыйнага адкрыцьця выстаўкі з Палаца культуры Белсаўпрофа выйшаў чыноўнік і абвясьціў, што выстаўка адмяняецца па тэхнічных прычынах.

Працягам гэтага вандалізму стала тое, што дырэктар Палаца культуры Белсаўпрофа Васіль Барысевіч атрымаў службовае спагнаньне за «недагляд» і «няпільнасьць» і вымушаны быў шукаць іншую працу.

3 ліпеня —Купальле ў Вязанцы. Не пасьпелі спадчынцы ўскласьці кветкі каля помніка Янкі Купалы, як да іх нечакана падыйшлі міліцыянеры і людзі, пераапранутыя ў цывільную вопратку. Пад'ехалі таксама пажарныя і міліцэйскія машыны. Маёр Верас загадаў усім ехаць назад у Менск і разыходзіцца па хатах. Толькі спадчынцы не пад парадкаваліся загаду і пайшлі ў лес.

Не пасьпела разгарэцца Купальскае вогнішча, як на палянку прыехалі міліцэйскія і пажарныя машыны. Маёр Верас пачаў патрабаваць: «У сілу пагрозы лясного пажару—затушыць вогнішча». Ён-жа пайшоў на сапраўдную правакацыю—выстраліў у лесе і стаў абвінавачваць у тым стрэле спадчынацаў. Падняўся лямант, на які зьбегліся турысты (яны таксама палілі вогнішчы, але ім ніхто не загадаў іх тушыць). З турыстамі падыйшоў хлопчык, які сказаў: «Дзядзенька, гэта-ж вы стралялі зь пісталета. Я сам бачыў». З нагоды выкрыцьця хлусьні, маёру Верасу нічога не заставалася рабіць, як ад'ехаць назад у Менск. Да спадчынцаў далучыліся многія турыстычныя групы і сьвята Купальля ў Вязынцы працягвалася ўсю ноч.

7 ліпеня—ліст ад начальніка СВПГ-12 па ахове Партызанскага раёна г. Менска В.Р. Маёра.

«В.Р. Майор, рассмотрев материалы о



*3 ліпеня 1986 г. Вязанка. Спадчынцы ўскладаюць кветкі да помніка Янкі Купалы*

противопожарном состоянии пионерской комнаты ЖЭС-23 и клуба «Спадчына» по ул. Менделеева, 3.

Постановил:

1. Дальнейшую эксплуатацию пионерской комнаты и клуба «Спадчына» приостановить с 10 июля 1986 г...

30 кастрычніка—у актавай залі бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР з нагоды Першых Скарынаўскіх чытаньняў адкрылася выстаўка «Скарыніяна», падрыхтаваная старшынёй клюбу «Спадчына», на якой было прадстаўлена каля 130 твораў жывапісу, графікі, экслібрысаў, мэдальернага і дэкаратыўна-прыкладного мастацтва, прысьвечаных беларускаму першадрукару. Выстаўка працягвалася да сьнежня 1986 г.

Акрамя таго ўсе ўдзельнікі скарынаўскіх чытаньняў атрымалі памятны керамічны мэдаль Францішка Скарыны мастака Валянтына Прыешкіна, а найбольш выдатныя дасьледчыкі скарыназнаўства за плённыя клопаты аб разьвіцьці скарыназнаўства —грамату клюбу «Спадчына». Аўтарам граматы быў старэйшы сябра клюбу мастак Алесь Цыркуноў.

17 сьнежня ў клюбе «Спадчына» плянавалася паседжаньне. Дасьледчык беларускай геральдыкі Анатоль Цытоў павінен быў выступіць з дакладам на тэму: «Гарадская геральдыка Беларусі». Сабралася шмат людзей, якія ўбачылі наступную карціну.

Замкі ў памяшканьне былі ўзламаны, мастацкія творы вывезены. На ўсім былі бачны сьляды разбурэньня і пагрому. На падлозе валяліся паламаныя рамкі, пар-



*30 кастрычніка 1986 г. Першыя Скарынінскія чытаньні. перад адкрыцьцём выстаўкі «Скарыніяна»*

ваныя графічныя творы, кускі гіпсу ад пабітых і паламаных скульптур і мэдаляў, парваныя слайды і фотаздымкі, папера.

Як пасьля высьветлілася, усю мастацкую калекцыю вывезьлі ў бомбасходвішча на вул. Уральская. Нават камісія райвыканкама, якая праводзіла гэты вандалізм, вымушана запісаць у акце аб зьнічтажэньні трох мастацкіх твораў.

Сьнежань 1986 -сьнежань 1987— актывісты клюбу «Спадчына» грукалі ва ўсе дзьверы партыйных і ўрадавых установаў, шукаючы абароны сваіх правоў.

У гэты-ж час у Менск прыехала камісія з ЦК КПСС на чале з Васілём Каспецкім па расьледваньню скаргі вялікай групы дзеячоў беларускай культуры аб стане беларускай мовы і культуры. Гэты момант выкарыстаў старшыня клюбу А. Белы.

23 студзеня 1987 г. Анатоль Белы напісаў ліст у ЦК КПСС і перадаў яго непасрэдна старшыні камісіі Васілю Каспецкаму. У лісьце было напісана наступнае:

*«...За время своего сущестования клуб «Спадчына» превратился в настоящий художественный музей и хранилище произведений белорусских художников. В нем собрано свыш 1000 графических произведений, около 200 художественных произведений медальерного искусства, которые являются уникальной коллекцией, как по количеству, так и по художественной ценности в белорусском медальерном искусстве. Для сравнения скажем, что, например, в Белорусском государственном художественном музее хранится только 23 медали. Кроме этого, у экспозиции клуба свыше 70 скульптурных произведений и 100 живописных и акварельных работ. В клубе была развернута постоянно действующая выставка «Сыны зямлі Беларускай», на которой было представлено свыше 300 художественных произведений.*

*Клуб одним из первых в республике начал активно проводить работу по созданию культурного фонда. Со своих запасников он передал в БГУ им. В.И. Ленина 103 графических произведения, благодаря чему там была создана художественная галерея графики. Подготавливались к передаче свыше 200 графических произведений и 30 медалей для создания в библиотеке Белорусского государственного университета (БГУ) зала графики (наподобие зала графики в Вильнюсском университете, с которым сотрудничает Белгосуниверситет.*

*Однако сейчас вся деятельность клуба «Спадчына» приостановлена, клуб насильственно закрыт, все его имущество, в том числе все художественные произведения, свезены в бомбоубежище по ул.Уральская,9.*

*17 декабря 1986 г. был совершен по существу варварский акт против белорусской культуры...*

*По этому же поводу в РК КПБ и ГК КПБ обращались народный писатель БССР И. П. Шамякин, корреспондент «Литературной газеты» по Белоруссии А. Н. Козлович и др. Все они получали заверения, что клуб будет восстановлен и художественные ценности сохранены.Однако ничего в этом отношении не сделано.*

*Убедительно прошу комиссию ЦК КПСС помочь в разрешении этих назревших, важных и актуальных общественных вопросов.*

*23. 01. 87. А. Белый»*

Гэты ліст паспрыяў таму, што сакратар ЦК КПБ па ідэялёгіі Валеры Пячэньнікаў прыняў старшыню клюбу. У выніку двухгадзіннай размовы старшыня клюбу атрымаў абяцаньне ад сакратара ЦК КПБ, што дзейнасьці клюбу ня будзе ставіцца перашкод, што будзе аддадзена старое памяшканьне ці прадстаўлена новае. Што тычыцца мастацкай калекцыі,то яна будзе перавезена з бомбасховішча ў клюб.

Аднак праз некалькі дзён выканкам Партызанскага раённага Савета народных дэпутатаў прыняў ад 10. 06. 87 г. рашэньне.

«Решили:... считать невозможным дальнейшую эксплуатацию помещения по адресу: ул. Менделеева, д.3 под помещение клуба «Спадчына».

(Працяг будзе)




# Як вынішчалі генафонд беларускай нацыі

Уладзімір Міхнюк
Якаў Паўлаў

Сутнасьць «слуцкай справы», з дакладу чэкістаў, заключалася ў наступным: «У канцы 1924 г. у Слуцкай акрузе на падставе легальнага гуртка па ўдасканаленьню беларускай мовы, існаваўшага на слуцкіх агульнаадукацыйных курсах пад уплывам шавіністычных настаўнікаў і навучэнцаў старэйшых курсаў узьнік нелегальны гурток. У яго складзе налічвалася 10 чалавек, у тым ліку 4 настаўніка (Лістапад, Макарэня, Курбыка і Мяцельскі). Паводля набытых агентурных зьвестак, памянены гурток меў цесную сувязь з Я. Коласам. Гурток нават выдаў адзін нумар літаратурна-палітычнага часопіса «Наша слова» (84 стар.), галоўнай мэтай якога было 1. прапагандысцкая работа сярод сялян, маючы намер узбудзіць іх супраць савецкай улады; 2. распаўсюджаньне контррэвалюцыйных адозваў з мэтай падрыхтоўкі аддзяленьня БССР ад СССР; 3.катаваньне «жыдоў»—засільнікаў савецкай улады.

Некалькі настаўнікаў і навучэнцаў слуцкіх агульнаадукацыйных курсаў былі арыштаваны па абвінавачваньню ў нелегальнай антысавецкай рабоце. У сакавіку 1926 г. у Менску адбыўся судовы палітычны працэс, на якім у якасьці эксперта выступіў вядомы грамадзкі дзеяч, пісьменьнік З. Жылуновіч. Сьведкамі на працэсе былі Я. Колас, М. Гарэцкі, А. Смоліч і інш. З. Жылуновіч даў негатыўную ацэнку дзейнасьці падсудных. Як высьветлілася, Колас ня толькі не зьяўляўся «ідэёлягам групы», а нават ня ведаў аб яе існаваньні. Уся яго «сувязь» была ў тым, што некаторыя з падсудных дасылалі ў Саюз пісьменьнікаў свае творы, якія Колас рэцэнзаваў. Тым ня менш, падазронасьць у прыналежнасьці паэта да «слуцкай справы» засталася надоўга. Прысуд «слуцкім палітыкам» быў такі: Ю.Лістапад атрымаў 5 гадоў пазбаўленьня волі са строгай ізаляцыяй. У лістападзе 1927 г. ён быў датэрмінова вызвалены, у 1933 г. зноў арыштаваны і па справе БНЦ тройкай ДПУ асуджаны на 8 гадоў працоўных лягероў.

Сябры Ю.Лістапада Мяцельскі, Макарэня і Дзямідовіч таксама былі асуджаны на 5 гадоў, але ў хуткім часе тэрмін пакараньня зьнізілі да 2 гадоў. Казаку суд вызначыў 5 гадоў пазбаўленьня волі. Затым, з-за малалецтва, скараціў пакараньне на трэць, а потым тэрмін прызнаў умоўным і з-пад арышту яго вызваліў.

Адной з прычын пашырэньня «шавіністычнага» руху ў Беларусі АДПУ у 1926 г. бачыла ў вяртаньні на Бацькаўшчыну былых палітэмігрантаў. За апошні час,— указвалася ў дакладзе,—бачна узрос масавы наплыў беларускіх эмігрантаў з-за мяжы. Яны плывуць самацёкам. За апошнія 6-7 месяцаў бягучага году ў БССР вярнулася



Працяг. Пачатак у №3(33)

звыш 40 чалавек былых эсэраў і шавіністаў, у тым ліку Краскоўскі, Мядзёлка-Грыб, удзельнік Слуцкага паўстаньня Міхалевіч, безумоўны польскі шпіён Грыневіч і шмат іншых. Трэба адзначыць, што беларускі эсэраўска-шавіністычны рух у значнай ступені накіроўваецца з-за мяжы, менавіта з Прагі, дзе засеў беларуска-эсэраўскі цэнтр (П. Бадунова, Грыб, Мамонька й інш). Мы нядаўна перахапілі дырэктыву Мамонькі, якая адрасавалася Трыфанаву. У ёй, у прыватнасьці, указваецца на неабходнасьць захопу ў «свае рукі» банкаў, кааператываў, прамысловасьці і навогул усёй дзяржаўнай маёмасьці, дзеля чаго на дапамогу мясцовым «патрыётам» з-за межы прыбудуць сьвежыя сілы, скончыўшыя там вышэйшыя навучальныя установы».[1]

Падагульняючы гэтыя і шэраг іншых «фактаў», складальнікі «аператыўнага даклада» рабілі далёка ідучую выснову: «Вось у такім стане знаходзіцца на сёньняшні дзень беларускі шавіністычны рух. Мы яго ўяўляем сабе як надзвычай небясьпечную зьяву для адзінства Савецкага Саюза, паколькі яго канчатковую мэту (адкрыў БССР ад Саюза) мы лічым устаноўленай. Мяркуем, што ў выпадку хутка узрастаючай хвалі беларускага нацыяналістычнага руху неабходны тэрміновыя меры. У адваротным выпадку гэтая хваля здолее захліснуць Савецкую ўладу ў Беларусі.[2]

Да гонару тагачасных кіраўнікоў Беларусі яны неадыкватна ўспрынялі ацэнкі і высновы ДПУ. У прынятай на кастрычніцкім (1926) Пленуме ВК КП(б)Б рэзалюцыі «Аб нацпалітыцы» быў выдзелены спэцыяльны раздзел «Беларусізацыя». Культурнаму адраджэньню ў ім адводзілася цэнтральнае месца. Палітыцы беларусізацыі надаваўся цэласны характар, выразна акрэсьліваліся яе галоўныя напрамкі і формы, вызначаўся комплекс практычных мер ажыцьцяўленьня.

Зыходзячы з моўнай сітуацыі ў рэспубліцы, важнае значэньне надавалася разьвіцьцю мовы. Гэта лічылася галоўным, асноватворным у далейшым разьвіцьці самой нацыі. Пры гэтым улічваўся нізкі агульны культурны ўзровень насельніцтва, што з аднаго боку, адпавядала дрэннаму стану яго матэрыяльнага дабрабыта, а з другога—зьяўлялася сьледствам паланізатарскай і русіфікатарскай палітыкі ціску на беларускую культуру, мову і літаратуру. Гэтыя абставіны прывялі да таго, што іншай мовы, акрамя беларускай, селянін і не ведаў. У яго сьвядомасьці захаваліся рэшткі былых адносін да вясковага дыялекту, як да мовы халопскай, якая ніякай узнёсласьці не дае, а выклікае толькі кпіны і жарты. Горш таго, гэта служыла падставай для размоў аб варожасьці сялянства да беларусізацыі. Тым больш, што частка старой інтэлігенцыі—паходжаньнем зь вёскі, авалодаўшы у горадзе рускай мовай, пераняла разам з тым і адносіны да сваёй роднай мовы як малакультурнай, у лепшым выпадку несамастойнай, штучнай, ці то сапсаванай рускай, ці то сапсаванай польскай. Свой уплыў аказвала і дыялектная стракатасьць мовы, незакончанасьць працэсу фарміраваньня літаратурнай мовы, нераспрацаванасьць яе гісторыі, сучаснай лексікі, граматычных нормаў, навуковай, палітычнай і юрыдычнай тэрміналёгіі. Праблемай нумар адзін заставалася задача ліквідацыі непісьменнасьці на роднай мове й авалоданьне беларускай мовай гараджанамі.

Улічваючы усё гэта, у рэзалюцыі пленума ЦК КП (б)Б адзначалася: *«Паколькі беларуская мова ў галіне палітычнай, навуковай і прававой знаходзіцца на пачатковай ступені разьвіцьця, пытаньне разьвіцьця і распрацоўкі мовы павінны быць пад пільнай увагай*

*партыі. Сябры партыі, якія працуюць у гэтай галіне, павінны, па-першае, імкнуцца каб друкаванае слова (асабліва газетная мова) насіла больш папулярны характар, па-другое, дамагацца, каб неабходная работа па распрацоўцы тэрміналогіі абапіралася на жывую гаворку беларускай вёскі»*[4]. Здаецца, што да закладзеных тады асноў беларускай мовы на сучасным этапе, калі нацыя перажывае рэнесанс беларусізацыі, трэба было-б узважанна зьвяртацца часьцей.

У працэсе беларусізацыі генафонд беларускай нацыі папоўніўся таленавітай кагортай моладзі. Выдатная плеяда хутка заявіла аб сваёй непаўторнай творчай індывідуальнасьці, сваім выдатным таленце. У. Дубаўка, М.Чарот, М.Зарэцкі, Я. Нёманскі, С. Барановых, П. Галавач, К.Чорны, М.Лынькоў, К.Крапіва, Б.Мікуліч, А. Мрый —гэтыя літаратурныя зоркі на небасхіле Беларусі аказвалі магутны ўплыў на разьвіцьцё культуры, рост нацыянальнай самасьвядомасьці. На вялікі жаль студзённыя вятры 30-х гадоў абарвалі жыцьцё многіх зь іх, але не святло ад іх творчасьці.

Рост нацыянальнай самасьвядомасьці адбыўся побач з ростам цікавасьці да гістарычнага мінулага сваёй Бацькаўшчыны, меў сваім вынікам шырокае разьвіцьцё ў рэспубліцы краязнаўства. На рабфаках, у вячэрніх школах для дарослых, школах рабочай і сялянскай моладзі, а таксама ў савецка-партыйных школах уводзілася абавязковае вывучэньне гісторыі, эканомікі і геаграфіі Беларусі, беларускай мовы і літаратуры. Вышэйшыя навучальныя, культурна-асьветныя ўстановы, перыядычны друк, выдавецтвы і справаводства паступова пераводзіліся на беларускую мову, хоць з прававога пункту гледжаньня мовы ўсіх нацыяў, што пражывалі на тэрыторыі Беларусі, лічыліся раўнапраўнымі. Мовы, чыё прадстаўніцтва ў агульнай масе насельніцтва было найбольшым, г.зн. беларуская, руская,яўрэйская і польская,лічыліся дзяржаўнымі, ня гледзячы на тое, што ў Канстытуцыі БССР адпаведнае палажэньне адсутнічала. Беларуская, як мова большасьці насельніцтва карэннай нацыі, была абрана ў якасьці асноўнай паміж дзяржаўнымі, прафэсыйнымі і грамадскімі ўстановамі й арганізацыямі. Мовай зносін органаў СССР і іншых саюзных рэспублік зьяўлялася руская. Побач з гэтым вырашалася задача вылучэньня прадстаўнікоў карэннага насельніцтва на тую ці іншую пасаду не па нацыянальнай прыкмеце (беларус-не беларус), а па дзелавым якасьцям, веданьню моваў і асаблівасьцей Беларусі, дасканаламу валоданьню беларускай і рускай мовамі. Адсюль і назва самога накірунку—карэнізацыя.

Бачную ролю ў разьвіцьці нацыянальнай сьвядомасьці адыграла вяртаньне ў 1927 г. на Бацькаўшчыну новай групы ўплывовых дзеячоў беларускай эміграцыі, у тым ліку членаў былой рады БНР. Па запрашэньню Савецкага ўраду на радзіму вярнуліся В. Ластоўскі, А. Цьвікевіч, І.Краскоўскі й інш. Іх сустракалі даволі ветліва і з паразуменьнем. В. Ластоўскі атрымаў пасаду дырэктара Беларускага дзяржаўнага музэя, працаваў незменным вучоным сакратаром Акадэміі навук, узначальва ў этнаграфічную навуку. А. Цьвікевіч быў зацьверджаны старшынёй камісіі па вывучэньню стану асьветы БССР, а таксама Інбелкульта, папярэдніка Акадэміі навук. І.Краскоўскі атрымаў пасаду дацэнта БДУ, старшыні сацыяльна-культурнай сэкцыі і члена прэзыдыума Дзяржплана БССР. А.Смоліч, былы намесьнік старшыні рады БНР, працаваў загадчыкам кафедры геаграфіі БДУ і Беларускай акадэміі

навук. М.Красінскі спачатку працаваў у наркамаце асьветы,а потым у другім Беларускім тэатры ў Віцебску. Іншыя рэпатрыянты таксама атрымалі працу ў адпаведансьці зь іх жаданьнем, адукацыяй і кваліфікацыяй. Асноўны склад рэпатрыянтаў сканцэнтраваўся ў сферы асьветы, навукі, культуры. В. Ластоўскі, У. Ігнатоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашевіч, якія не пакідалі межаў Беларусі і мелі амністыю яшчэ раней, у 1928 г. сталі першымі акадэмікамі Акадэміі навук БССР. На жаль, іх лёс аказаўся трагічным, але гутарка аб гэтым пойдзе ніжэй.

Парадксальным зьяўляецца тое, што ў канцы 20-х гадоў, калі ў грамадзтве ішло бачнае абуджэньне палітычнай актыўнасьці, расла нацыянальная самасьвядомасьць, паступова сталі ўмацоўвацца элементы адміністрацыйна-каманднага стылю кіраўніцтва, узмацьненьне тэндэнцыі аўтарытарызму, бюракратызацыі партыйнаага і дзяржаўнага кіраваньня. Безумоўна, сюды далятала амплітуда тых супярэчлівых падзеяў, што адбываліся на маскоўскім палітычным алімпе, асабліва з таго моманту, калі выявілася перамога лініі Сталіна й яго бліжэйшых паплечнікаў. Але нельга не адзначыць, што і ў самой Беларусі побач са стваральным энтузіязмам народу усё бачней і адчувальней прасочваліся тыя-ж адміністрацыйна-камандныя грахі: тэндэнцыя на фарсіраваньне тэмпаў будаўніцтва сацыялізму, залішні упор на чыста адміністратыўныя метады замест дасканалага растлумачэньня, перакананьня мас, парушэньня прынцыпу добраахвотнасьці. У прыватнасьці, нярэдка можна было назіраць такое, калі пры вывучэньні той ці іншай мовы складваўся спіс супрацоўнікаў,якіх абавязвалі вывучаць другую мову ў надзвычай сьціслыя тэрміны. Для тых, хто не пасьпяваў,абазначалі дадатковы час, а потым, калі ён зноў не укладваўся, звальнялі з працы. Здаралася, што па плану сацыялістычнага спаборніцтва тэрміны скарачаліся, а належныя умовы не пасьпелі стварыць і тады ўсё камячылася, не прыносіла неабходных вынікаў. Адмоўным было і тое, што патрабаваньне абавязковага веданьня беларускай мовы нярэдка адсоўвала на другі план дзелавыя якасьці работніка.

І ўсё-ж не гэта было самым адмоўным і пагражальным для палітыкі нацыянальнага адраджэньня: высьпяваўшая да часу барацьба аўтарытарнай і дэмакратычнай тэндэнцыяў стала выліваецца на паверхню. Трагедыя заключлася яшчэ і ў тым, што мала хто верыў і прадбачыў, чым урэшце рэшт усё гэта можа скончыцца, якіх нацыянальных ахвяр будзе каштаваць сталінскі «круты пералом». Менавіта ў канцы 20-х гадое пачатку 30-х гадоў таталітарная сыстэма пры манаполіі адной партыі на паўнату ўлады ў многіх сваіх вузлавых параметрах ужо склалася цалком. Яна выйшла на рубежы рашучага наступленьня па ўсіх напрамках палітыкі, сярод якіх нацыянальны напрамак, бадай што, зьяўляецца адным з галоўных.

Характэрным у дзейнасьці партыйнага і дзяржаўнага кіраўнцітва Беларусі таго часу зьяўлялася тое, што яны цалком капіравалі палітыку цэнтра. Такая тэндэнцыя і вынікі працэсу ў цэлым у праекцыі на рэспубліку даволі яскрава адлюстроўваў XII зьезд КП(б)Б (1929), які зьявіўся вехай на шляху крутых зьмен у палітбюро. Асноўны лейтматыў яго рашэньнў—абвастрэньне класавай барацьбы, галоўная небясьпека —правы ухіл. Сутнасьць яго кваліфікавалася як супрацоўніцтва з капіталістычнымі элементамі, дазвол мірнага ўрастаньня кулака ў сацыялізм,падпрымка хутраскіх гас-

падарак, тармажэньне хода калектывізацыі й аслабленьне тэмпаў індустрыялізацыі. Формай праяўленьня правага ухілу ў Беларусі вызначыўся так званы нацыянал-дэмакратызм.[5]

Тады-ж на партыйным зьезьдзе былі вызначаны шляхі і сродкі барацьбы з класавым ворагам: узмацьненьне наступа на капіталістычныя элементы, на кулака і нэпмана. Адначасова мелася на ўвазе правесьці ў рэспубліцы перавыбары тых Саветаў, якія «не спраўляюцца з задачамі калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа».[6]

Прадпісвалася таксама цьвёрда праводзіць пралетарскую лінію ў культурным будаўніцтве, пільна назіраць за ідэйнай вытрыманасьцю зьместа літаратуры і мастацтва, забясьпечваць пастаяннае кіраўніцтва друкам, кіно і радыё.

Алею ў распальваемае полымя «класавай барацьбы » і вынішчэньня «нацдэмаў» падліла спэцыяльная камісыя ЦК УКП(б), узначальваемая членам прызыдыюма ЦКК УКП(б). У. П. Затонскім. У чэрвені 1929 г. яна вывучала практыку вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў Беларусі. Свае назіраньні, заўвагі і прапановы Затонскі выказаў у аб'ёмістым дакладзе, які, несумненьна, потым быў прадстаўлены членам Палітбюро і самому Сталіну. 27 чэрвеня 1929 г. даклад быў зачытаны членам бюро ЦК КП(б)Б. Але адбылося непрадбачанае: бюро ЦК Кампартыі Беларусі якога-небудзь рашэньня па дакладу Затонскага не прыняло. Атрымалася, так, што з 13 членаў бюро 7 адсутнічалі. Дакладчык выказаў сваё незадавальненьне тым, што пры абмеркаваньні такога важнага пытаньня, як практыка нацработы у БССР, у «атлучцы» знаходзіліся амаль усе галоўныя кіраўнікі рэспублікі: сакратар ЦК КП(б) Б. Я. Б. Гамарнік, старшыня СНК М. М. Галадзед, старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў, старшыня ЦКК КП(б) Б і нарком РСІ БССР А. Я. Калінін, сакратар Менскага адкужкома партыі А.С. Славінскі, старшыня ЦСПС І. П. Рыжоў. Ды і тыя, хто прысутнічаў не выказаліся ні «за», ні «супраць» вывадаў камісіі. І ўсё-ж пэўнае ўзьдзеяньне на кіраўніцтва рэспублікі прыезд У.П. Затонскага аказаў, хоць канкрэтных рэкамендацыяў на прамое прымяненьне вывадаў і рэкамендацыяй камісіі няма. Па-першае, гэта быў ужо трэці сістэмазаваны «аўтарытэтны» сыгнал у ЦК КП(б) Б аб ненадзейным» стане беларускага нацыянал-дэмакратычнага руху у Беларусі. Па-другое, на паседжаньні бюро ЦК прысутнічаў шэф ДПУ БССР Р. Піляр. Ён зацікаўлена фіксіраваў увесь «кампрамат», які «кампетэнтыя» ворганы мэтанакіравана накаплівалі, абагульнялі і калі прыходзіў час, уводзілі ў дзеяньне.Па-трэцяе, тагачасны адказны сакратар парткалегіі ЦК КП(б)Б і намесьнік наркома РСІ БССР А. Б. Рыськін адзначаў: «Камісія Затонскага, якая праводзіла работу па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам ЦКК, у значнай меры нам дапамагла: па-першае, узмацьненьню барацьбы з усялякім шавінізмам і ў першую чаргу з беларускім шавінізмам. Гэта трэба падкрэсьліць як безумоўную заслугу ЦКК» [10]

*(Працяг будзе)*

## *Бібліяграфія*


1. Цэнтральны дзяржаўны архіў Рэспублікі Беларусь.

2. «Белорусская нива», 6 мая 1993

3. ЛіМ, 1993, 10 верасьня

4.Тамсама

5.КП(б) у рашэннях і рэзалюцыях з'ездаў ч. 1.с. 329

6.Стэнаграфічная справаздача XII з'езду КП)б)Б. Мн. 1929, с. 140

7. ЦДА РБ, ф. 101, воп.1, с. 2690, арк .45

9 Нёман, 1992, №9, с .23

10. Нёман, 1992, №9, с. 123

# Паказаньні арыштаў А. Смоліча

## *Зам. председателя ОГПУ БССР тов. Гродису*

Согласно Вашему предложению, в целях уточнения и дополенния моих предыдущих показаний о националистических белорусских группировках и их связи с массами, показываю следующее:

О существовании каких-либо массовых белорусских антисоветских организаций я за все время своего пребывания в БССР не слыхал. В своих показаниях на следствии, правда, я говорил, что принимал участие в работе организаций САБ-СВБ[1], которые, возможно, и носили массовый характер. Однако, это мое участие в работе САБ—СВБ можно понимать только условно. Я настойчиво предупреждал следователя и не раз писал—в показаниях, что о самом существовании организаций САБ—СВБ, а тем более о их программе и деятельности, я до дня ареста ничего не знал, но он меня убедил рядом сообщенных фактов и показаний разных лиц, что та группа беларусской интеллигенции, которая была объединена около ИБК-БАН [2], которая, действительно, проводила работу по развитию буржуазного национализма, по самому своему существу контрреволюционного, что она именно и носила название сначала САБ, а затем СВБ. Об активной антисоветской работе этой группы я тогда не знал, и так как в своей нелегальной работе я был связан с участниками этой группы, поддерживал с ними личные отношения, так как моя деятельность вообще носила националистический (хотя и не антисоветский, как мне казалось, характер), то я после долгих споров со следователем признал эту терминологию, называл в своих показаниях Инбелкультовскую интеллигентскую группу организациями САБ-СВБ.

В дальнейшем, желая раскрыть до конца все связи этой группы и помочь уничтожению вредных результатов ее работы, я пытался предположительно выяснить вопрос об участниках этой группы, которым относил известных мне по своим националистическим настроениям лиц, что, конечно, весьма условно. Возможно, что согласившись принять эту терминологию, я поступил несколько легкомысленно,так как и до сих пор для меня остается неясным, существовали ли эти организации и что они собой представляли. Но я думаю, что приняв их существование, как рабочую гипотезу, и вплетая в неё известные мне факты, которые могут сюда относиться, я лучше выполню взятое на себя обязательство о полном разоружении, как своем, так и всей белорусской националистической контрреволюции. Я полагал, что по мере хода следствия будут вскрыты как действительный характер данной группы, так равно и характер и степень моего в ней участия и тогда для ОГПУ станет ясно, что никакой сознательной антисоветской работы я не проводил.

Но если я не знал о существовании

---

*1. САБ—Саюз Адраджэньня Беларусі, СВБ—Саюз Вызваленьня Беларусі.*

*2. ИБК—Інбелкульт БАН—Беларуская Акадэмія Навук*

массовых нацдемократ. организаций, то о некоторых попытках создать таковые мне было известно и я о них показывал. Говоря о них здесь еще раз для полноты картины, я кроме того, изложил известное мне о путях и возможностях влияний националистических группировок на массы.

Предложения «создавать организацию» я слышал раза три от И. И. Красковского. Этот неспокойный человек, только что вернувшийся из заграницы, обласканный Советской властью, не мог все-же обойтись без «организации», в которой ему хотелось непременно «играть роль». Это, между прочим, его старая привычка: он «делал организацию» будучи в Вильне, в Двинске, хотел делать и в Менске. В Двинске он, по его словам, создал конспиративную организацию, называвшуюся чуть ли не «Суполка адраджэньня Беларуси». Рассказывая об этом на вечере у себя сразу посьле приезда, он говорил, что недурно бы здесь создать что-либо подобное, чтобы объединить «белоруссов» и усилить белорусское движение. Я тогда же говорил, что это совершенно ненужная и вредная затея.

Спустя некоторое время он лично ко мне обращался с предложением «создавать организацию» и еще раз повторил это предложение летом 1927 г. Оба раза он мотивировал свое предложение необходимостью укрепить белорусское движение, обеспечить его на всякий случай, дать моральную поддержку отдельным работникам, но ничего не говорил об активной борьбе с Советской властью и о конечных целях организации. Тем не менее я самым категорическим образом возражал против его предложений, доказывая ему, что это спровоцирует культурную работу, которая с таким успехом развивается в БССР, отговаривая его самого от подобных мыслей. Он в конце концов не особенно настаивал, почему я был уверен, что никакой организации никто не создает, и вообще не придавал этим разговором серьезного значения.

Из этого, конечно, не следует, что я тогда отрицал необходимость белоруских национальных влияний на массы, осуществляемых рядом легальных путей. Наооборт, я считал весьма важным, чтобы массы сознавали себя белорусскими и хотели быть таковыми, чтобы они широко пользовались белорусской культурой (книга, печать, театр, школа и т.д.) и принимали участие в ее созидании. Это, конечно, были националистические цели, но я мыслил себе их осуществление в обычных условиях советской государственности, больше того, иных условий для их осуществления я не видел и не желал. Все эти цели достигались уже в порядке проведения Ленинской национальной политики на данном этапе революции (когда национальные отличия еще не отмирают). Но как в прежние годы мне казалось, что принципы этой политки БССР при своем проведении встречали препятствия благодаря недостаточному развитию белорусской научной и культурной работы, то я и считал, что в этом отношении белорусская национальная интеллигенция должна прийти на помощь своей общественной и практической работой.

Лично моя деятельность была направлена на создание научных учреждений и их завершения в Белорусской Академии наук, на усиление личного состава квалифицированной белоруской интеллигенции, на укрепление ее позиций в вузах и научных учреждениях. Подобная работа в дополнении к политике белорусизации и вообще к массовой работе, проводимой непосредственно партийными и советскими органами, должна была способствовать, так я думал,

и распространению белорусской культуры в массах.

О том, как я себе представлял значение массовой советской культурной работы, свидетельстует мой разговор с Н. Азбукиным зимой прошлого года (его легко проверить). Я ему задал вопрос, сколько человек сегодня читает белорускую книгу? Он, не подумав, сказал: «Человек 1000». Нет, говорю 500 тысяч школьников ежедневно читает белорусскую книгу, да тысяч сто человек читает белорусские газеты. Все они уже являются участниками белорусского культурного процесса. Что-же нам больше надо? А ведь совсем недавно мы мечтали, чтобы удержать как-нибудь десяток белорусских школ, чтобы белорусские газеты читала сотня-другая людей. Подобные мысли высказывал я и А. Цвикевичу. Кому-то из них говорил я еще о своих наблюдениях,что крестьянин-читатель «Бел. Вёскі» начинает говорить прекрасным белорусским языком, в котором народная свежесть и колорит соединены с литературной чистотой и правильностью, говорил о сельских настенных газетах на белорусском языке (и его местных диалектах) и т.д. А ведь все это значит, делал я вывод, что белоруская культурная среда создается уже в деревне, что ее в массовом, грандиозном масштабе создает советская печать, школа, вся национальная политика коммунизма. В моих глазах все это было осуществлением конечных целей белорусского движения, как я их понимал в продолжение всей своей 20-ти летней в нем работы.

Сам я никакой национальной пропаганды в массах или даже в школе не вел. Я вообще сомневался в ее необходимости, так как национальное движение для меня представляло интерес, как естественное явление. Мне думалось, что если я читаю лекции в ВУЗе на белорусском языкие и вообще последовательно провожу нацполитику партии, то я уже этим делаю много и для массового национального движения, как преподаватель ВУЗа. Если вышедшие из Вузов учителя, врачи, агрономы последуют моему примеру, если они охотно будут говорить с массами на их родном языке, если будут понимать Ленинскую национальную политику не как временную тактическую меру, а как глубоко принципиальную установку,то они в результате гораздо больше подымут национальное сознание масс, чем если б они занялись национальной пропагандой.

Из сказанного видно, что мои взгляды, хотя и были в основном увязаны с нацполитикой Коммунистической партии, носили все ж национальные задачи, превращались в самомодель. Поэтому они как я это хорошо понял теперь, были вредны для дела революции. Они создавали почву, на которой при известных условиях мог развиваться контрреволюционный национал-демократизм.

(Працяг будзе)



# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Зярняты беларускага палетку

Яўгенія Аляксейчынка

Добры дзень, Масей Іларыёнавіч!

Ведаю,што вельмі ня ветліва з майго боку не адказваць на вашы цёплыя словы, але нешта да часу ўсё больш у думках, у сэрцы, а на паперу не кладзецца...

І на Каляды Вы прысутнічалі за нашым сталом, пакрытым белым даматканым абрусам паверх духмянага сена, і ялінку разам зь лесу везьлі. Уявіць гэта цяпер вельмі проста пасьля той невялічкай сустрэчы— Вы так і засталіся ў нашай хаце. Даруйце за такую «прыхватызацыю»—цяпер гэта моднае слова. Прыходзяць сябры, то вершы пачытаем, то ліст той, надрукаваны ў «Полацку»[1], то Ваш адказ... Гэтая перапіска пабывала і ў Горадні. Мяне сябры ўхваляюць за такую «дзейнасьць», за зваротную сувязь, падбадзёрваюць. Так што, можна лічыць, гэта ў нейкім сэньсе калектыўная творчасьць.

А яшчэ былі такія паралелі, параўнаньні. На сваім уласным агародзе што ў 80 км, ад Менска, мы засеялі лапік зямлі жыта. Разам з унукам наглядалі ўсе фазы разьвіцьця, нават уласную казку пра зярнятка зладзілі. Надыйшоў час жніва. Вучыліся жаць сапраўдным сярпом, ды так, каб і палец не парэзаць (у сялянскіх дзяцей нашага часу пэўна ў кожнага знойдзеш на левым мізенцы зажыты рубец) і карані не рваць Патрэбна навука, калі робіш перавясла, ці курцель, вяжаш сноп, ставіш снапоў дзесяток. Але самае цікавае і адказнае —зламаць «шапку» і прыгожа накінуць на верх дзесятка. Каб ён быў такі ладненькі, прывабны, фарсісты. У зярнятак, якія вырасьлі разам на гэтым полі, розны далейшы лёс. Нейкае мышка згрызе, другія стануць боханам духмянага хлеба, а трэцім наканавана прадоўжыць род на гэтым полі або суседнім, а можа і за акіянам. Зразумелі? Але-ж вырасьце тое жыта, калі хто-небудзь гвалтоўна ня зьмяніць яго генетычны код. Вось такія зярняты зь Беларускага поля, па сьвеце раськіданыя, захавалі свой код. І пішуць. Слова да слова, радок-каласок, а жменя калосьсяў—і верш загучэў. Добра, што яны зьбіраюцца ў снапочкі, кніжкі-дзесяточкі. А выдаўцам трэба іх прыгожаю «шапкай» накрыць. І стаяць яны на кніжных паліцах, як дзесяткі на сжатым палетку. А ўсяму грамадству трэба паклапаціцца, каб захаваць іх, абараніць ад магчымай непагадзі, ад ветру-буралому, і стануць яны духоўным хлебам нашчадкам нашым, каб выраслі яны моцныя духам, каб код свой не згубілі.

Мы ўжо ў Паўлікам выбралі для вольнага завучваньня Ваш верш «Беларускім паэтам», па новай гісторыі Беларусі Паўлюк атрымлівае 5 (хаця ўвогуле вучань ня

---

1. Ліст Я. Я. Аляксейчынкі «Мы яшчэ сустрэнемся» быў надрукаваны ў «Полацку» №4(24), 1993

вельмі старанны). Можа так пакрысе і «дакрочымся» мы да Беларусі, як піша Н. Гілевіч

Такое жніва сёньня атрымалася.

Кола дзён налічыла Вам восем дзесяткоў гадоў, а на палетку творчасьці гусьценька стаяць дзесяточкі духоўнага хлеба з непарушным загартаваным кодам шчырага Беларуса. (Праўда, ЛіМ не паверыў, што Вам 80, мусіць па прычыне актыўнасьці і зьмясьціў артыкул пад назвай «Да 70 годзьдзя»).

Дай Вам Божа добрага здароўя. Беражыце Вольгу Піліпаўну й яна вас.

Л. Генію́ш пісала:

Любіў дзедка дудку,
любіў дзедка люльку,
ды мілей за ўсё была
сівая бабулька

У канцы мінулага году (яшчэ пры Шушкевічу) мы хадзілі на сустрэчу з прэзыдэнтам Клінтанам, не на плошчу ці праспект, а ў Курапаты. Бо калі прадстаўнік вялікай дзяржавы прыехаў і разьдзяліў наш боль, то яму трэба аказаць максімум павагі. Праўда, нас адціснулі вельмі далёка, але масоўка была вялікая без запрашэньня і прымусу, хутчэй наадварот.

Нядаўна ў Доме літаратара ТБМ ладзіла вечарыну.Добрая была, цёплая. Але больш за ўсё ўразіла выкананьне бардам Уладзімірам Палупанавым песьні «Эмігранты». Ён яе рыхтаваў да зьезду беларусаў сьвету, але, недашліфаваную, не захацеў тады выконваць. Цяпер адбылася прэм'ера. Я зьнешне даволі стрыманы чалавек у сваіх пачуцьцях, а тут туман у вачох паплыў. Ну, вядома-ж Вы былі першым у тым шэрагу, аб кім думалася,як тая энэргія,што накіроўваецца на нейкі адзін ключ,а потым праз яго ўжо разыходзіцца ў другіх напрамках. Выпрабаваньне часам—50 гадоў—гэты канал сувязі чаканьня свайго часу, сваёй чаргі. Ня ведаю, ці то выкананьне было выдатным ці верш вельмі сугучны майму настрою, але я адшукала выканаўцу і папрасіла дазволу пераслаць гэты тэкст у Амэрыку—вам і знойдзенай маёй радні, што жыве зь Янкам Золакам.

Дазвольце павіншаваць Вас, Вашу сям'ю, усіх беларусаў Амэрыкі зь сьвятам Вялікаднем, Уваскрашэньем Хрыстовым! Дай Божа, каб усе былі здаровы і ліст дайшоў.

Да пабачэньня Я. Я. Аляксейчынка

Эміграцыя

Уладзімір Палупанаў

*Вас пагнаў жортскі лёс*
*зь сінявокай радзімы ў свет.*
*А ў роднай зямлі пахаваны бабуля і дзед.*
*А ў зялёным гаі*
*кожны травень зьвіняць салаўі*
*І гудуць над палеткамі пчолак рупліх раі.*

*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Беларусь—гэта дзеці твае.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Шмат па сьвеце дачок і сыноў.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Вас гукае матуля дамоў!*

*Сумна вам, дарагія мае, на чужыне ўміраць,*
*Там, дзе дрэвы ня тыя, ня тая зусім сенажаць.*
*Там дзе сонца ня тое, і месяц на небе ня той,*
*Там не ўбачыш старэнькі асвер*
*і вярбу над вадой.*

*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Беларусь—гэта дзеці твае.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Шмат па сьвеце дачок і сыноў.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Вас гукае матуля дамоў!*

*Рэдакцыйнай калегіі*
*часопіса "Полацак"*

*Паважанае спадарства!*

*Як паведаміла Пасольству Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, арганізацыйны камітэт па святкаванню 975-х угодкаў заснавання Бярэсця прыняў рашэнне аб пераносе гэтага мерапрыемства на восень 1994 года. Аб дакладнай даце святкавання будзе паведамлена пазней.*

*Прашу праінфармаваць аб пераносе фэсту берасцейцаў свету чытачоў Вашага паважанага выдання.*

*З павагай,*

*Пасол* С.Мартынаў

*1 чэрвеня 1994 года*



*Хата,дзе нарадзіўся Т.Касьцюшка. Мерачоўшчына, каля Косава, Івацэвіцкі р-н, Берасьцейская воб.*

Пасольства Рэспублікі
Беларусь
у Злучаных Штатах Амерыкі



Embassy of the Republic
of Belarus
to the United States of America

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

---

***Паважаныя суайчыннікі!***

*23 чэрвеня 1994 года адбудуцца першыя ў гісторыі Беларусі выбары прэзідэнта. Гэта падзея - разам з нядаўнім прыняццем Канстытуцыі дзяржавы - мае выключнае значэнне дзеля ўмацавання суверэнітэта нашай незалежнай краіны, паглыблення працэса дэмакратызацыі ўсіх сфер жыцця.*

*Першы прэзідэнт Беларусі будзе абраны ў выніку прамога тайнага галасавання.*

*У адпаведнасці з Законам "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", усе грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія стала жывуць ці часова знаходзяцца ў Злучаных Штатах Амерыкі, маюць права прыняць удзел у выбарах. Галасаванне адбудзецца 23 чэрвеня г.г. з 7 гадзін раніцы да 22 гадзін на двух выбарчых участках па наступных адрасах:*

***Embassy of the Republic of Belarus***
***1619 New Hampshire Avenue, N.W.***
***Washington, D.C. 20009***

***Consulate General of the Republic of Belarus***
***708 3rd Avenue***
***18th Floor # 1802***
***New York, NY 10017***

*Тыя з выбаршчыкаў, хто не мае магчымасці ўдзельнічаць у выбарах непасрэдна 23 чэрвеня, змогуць прагаласаваць у любы дзень, пачынаючы з 13 чэрвеня, па пазначаных вышэй адрасах з 9 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара.*

*Запрашаем прыняць удзел у выбарах і ўнесці Ваш асабісты ўклад у дэмакратыю Беларусі!*

***Пасольства Рэспублікі Беларусь***

# Сьв. памяці Марыны Лукашэвіч

Марына Лукашэвіч (дзявочая Грудзька) нарадзілася 7 ліпеня 1911 г. у Краснай Волі, Лунінецкага р-ну, Берасьцейскае вобл. Замуж выйшла за Яна Лукашэвіча, ураджэнца Краснае Волі. Бацькі купілі ім невялічкі хутар каля Краснае Волі, на якім яны гаспадарылі да 1943 г. Мелі трох сыноў. Настарэйшы сын Мікола памёр у маленстве. У 1943 г. у сувязі з партызанкай. Лукашэвічы пераехалі ў Лунінец, і немцы адправілі іх на працу ў Нямеччыну. Прывезьлі ў Турынгію, Рудольфштадт, дзе яны працавалі на фабрыках.



Напачатку Турынгію занялі амэрыканцы, але затым гэтую тэрыторыю аддалі Саветам. Лукашэвічаў амэрыканцы вывезьлі ў Кобург, Баварыю. З Кобурга перавезьлі ў Ашафэнбург, пазьней у Вільдсфлекен. Там Лукашэвічы даведаліся, што ў Віндзішы арганізуецца беларускі лягер. На прапанову Янкі Раковіча, вырашылі пераехаць у гэты беларускі лягер,але ў Віндзішы змаглі прыняць некалькі сямействаў, бо не было месца. Лукашэвічам прапанавілі пераехаць у беларускі лягер у Остэргофэн. Лукашэвічы пражылі ў Остергофэне да 1950 г. У 1950 г. яны прыязджаюць у ЗША, у Кліўленд.

Ян, Марына, сыны Віктар і Янка былі самымі актыўнымі асобамі пры арганізацыі грамадзкага і царкоўнага беларускага жыцьця ў Кліўленьдзе. Паколькі ўсе былі дарослыя і вельмі працавітыя, яны адны зь першых купілі хату.

У іх хаце была вялікая піўніца, якую Лукашэвічы ачысьціі, адрэмантавалі, адпаведна ўмэблявалі, аддалі ў бясплатнае карыстаньне беларускай грамадзе. У гэтай піўніцы адбываліся зборкі, адзначаліся ўгодкі сьвятаў, народізнаў, Гасьціннасьць Лукашэвічаў шмат каго зьдзіўляла. Марына ніколі не паскардзілася, што пасьля кожнае зборкі ёй прыходзіцца прыбіраць піўніцу. Кожнага госьця яна прыймала як роднага.Марына была невялікага росту. Людзі дзіваваліся, адкль яна брала столькі сілы й энэргіі да працы.

Ейная з мужам адданасць беларускай справе была бязьмежная. Яны жылі адной марай, каб дачакацца дня, калі бел-чырвона-белы сьцяг залуне над Менскам. Марына дажыла гэтага моманту, але муж Ян не дачакаўся. Цяжка перажываць жанчыне сьмерць мужа, але яшчэ цяжэй хаваць сваіх дзяцей. Марына гэтую муку перажыла тройчы. Пахавала сыноў Мікалая, Віктара і Яна. Віктар быў вэтэранам Карэйскай вайны, Янка—вэтэран Вьетнамскае. Восем гадоў сьв. памяці Марына жыла адна. Перанесла некалькі апэрацыяў на калена, зь кіёчкам прыходзіла ў Царкву Жыровіцае Божае Маці. Памерла 8 траўня. Паховіны адбыліся 11 траўня.

Пахавана на беларускім могільніку поруч з мужам Янам. Вечная памяць Табе, Марына, ад нас усіх, хто не забыў Вашую гасьціннасьць і Ваш шчыры патрыятызм.



Сябры Саюзу Беларускай Моладзі ў часе II Усебеларускага Кангрэсу.
Амаль кожны зь іх быў засуджаны на 15-25 гадоў ГУЛАГу.

